Беларуская газэта
Naša Niva

# НАША НІВА

№ 2
ліпень 1991
кошт 1 рубель

Вітаўт Кіпель
## Менск, 1942

## Biełarusy Vilni vychodziać na palityčnuju arenu

## Што здарылася?
Крымінальная кроніка

## Хрысьціянія — краіна, дзе перамог камунізм

## Чэслаў Мілаш пра Кастуся Каліноўскага: няшмат засталося ад ягоных сапраўдных поглядаў і памкненьняў

## *Адам Глёбус:*
Прырода жорстка жартуе з нашае здольнасьці адрозьніваць адно ад аднаго. Неяк я нават бачыў «самога сябе»...

## Х.Л.Борхэс
і пра яго

## Нацыя паэтаў і сьмецяроў
Сухі артыкул С.Паўлоўскага

## Сатанінскія вершы
Баляслава Лесьмяна

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Зь вялікай радасьцю сустрэў выхад у сьвет першага нумару* Нашай Нівы. *Хацеў напісаць адразу, але нумар з адрасам рэдакцыі зараз жа па маім вяртаньні ў Ленінград пайшоў па руках сяброў Беларускага грамадзка-культурнага таварыства.*

*Па-першае, узрадаваў высокі інтэлектуальны ўзровень нумару. Так трымаць, дзецюкі!*
*Урэшце, меў у руках антыправінцыйнае, эўрапейскага ўзроўню беларускае друкаванае слова.*
*Толькі такім шляхам мы зноў трапім на пракладзеную Луцкевічамі, Ластоўскім, Багдановічам дарогу, зь якой зьбіліся, дзякуючы наўмыснай плебеізацыі нашай культуры ў падсавецкі час.*

*Па-другое, цікавы зьмест нумару. Не ў вапошнюю чаргу дзякуючы ўзросту аўтараў, іхняй маладосьці.*
*Няма замшэласьці, якая, на жаль, зьяўляецца прыкметай старэйшага пакаленьня.*

*Посьпехаў Вам!*

**Валяньцін Грыцкевіч,**

Санкт-Пецярбург.

*Здымак Алены Адамчык.*



## Апавяданьне «Стары дом»
Алег Мінкін



Апавяданьне пра тое, як нехта выпадкова заначаваў у старым закінутым доме й потым, куды ні сыходзіў, усё адно прачынаўся ў той самай зачараванай хаце, — магло б, напэўна, зрабіцца маім самым улюбёным апавяданьнем. Бо ўсё маё жыцьцё складаецца зь незразумелых вяртаньняў да нейкага зыходнага пункту, у якім усё існае раптам страчвае сэнс і ператвараецца ў бязглуздае нагрувашчаньне нічым не зьвязаных паміж сабой аскялёпкаў. Відавочна, што менавіта з гэтай дзіўнай асабліваcьці майго існаваньня й склаўся вобраз нейкага зачараванага мейсца на зямлі, куды так лёгка выпадкова патрапіць, але вырвацца адкуль ужо немагчыма.

Няхай такім мейсцам будзе самая звычайная хата ў прадмесьці: драўляная, крытая йржаваю бляхай, вокны забітыя дошкамі, — у атачэньні зарасьцяў палыну й крапівы. Няхай і герой апавяданьня будзе самы звычайны: недзе працуе, жыве халасьцяком у інтэрнаце. Што такое нашыя інтэрнаты, чытач, мусіць, ведае. Гэта даўжэзныя, прапахлыя застарэлай кісьляцінай і хлёркай калідоры, сьцены пафарбаваныя ў нешта брунатна-зеленкаватае, адна засьмечаная кухня й дзьве мыйні-прыбіральні на паверх, доўгі шэраг абшарпаных дзьвярэй, што вядуць у цесныя пакойчыкі-катушкі на чатыры ложкі.

Словам, суцэльны дыскамфорт, зь якім наш самотнік, герой апавяданьня, ніяк ня можа звыкнуцца. І вось у нейкі момант, шукаючы цішыні й спакою, ён апынаецца ў прадмесьці з надзеяй зьняць пакойчык у прыватным доме, або нават, калі пашэньціць, дык і цэлую хатку. І ўжо зусім няцяжка ўявіць сабе, як малады чалавек, угледзеўшы за густым гольлем зьдзічэлага саду акрыты іржаваю бляхаю дах, штурхануў лядашчыя ад сонца й сырасьці весьніцы. Пакінуты гаспадарамі дом быў незамкнёны, і герой наш увайшоў усярэдзіну. У мяне ўзьнікае спакуса зьмясьціць у гэтую досыць незвычайную будыніну не зусім звычайную рэч або хоць бы нейкую дробную дэталь, якая б пасяліла ў душы героя цьмяны страх перад невядомасьцю, нейкую няясную трывогу. Аднак стары дом як звонку, так і ўсярэдзіне, самы звычайны. У сенцах — зьзеленелы мядзяны вяшак для вопраткі ды пукі перасохлых зёлак пад столльлю. У пярэднім пакоі — печка-грубка, цёмны, паточаны шашалем стол і пара гэткіх жа ўслонаў. Збоку ад дзьвярэй — карэлая паліца для посуду й вадаправодны кран. За пажоўклай фіранкай — другі, большы пакой, дзе месьцяцца толькі выцертая ад доўгага ўжытку канапа ды расхістаная кніжная этажэрка. На сьценах — плямістыя, пабдзіраныя дзе-нідзе шпалеры, паўсюль павута і пыл. З вокнаў, праз шчыліны

*(Працяг на стар.6)*

# Зь менскага жыцьця

Вітаўт Кіпель



*Здымак Анатоля Клешчука.*

**Вітаўт Кіпель нарадзіўся ў Менску ў 1927. У 1933 разам з бацькам высланы на Урал.**
**З 1938 — у Варле.**
**З акупацыяй немцамі Арла ў 1942 сям'я вяртаецца ў Менск.**
**З 1944 на эміграцыі.**
**Скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт, гэоляг... З 1956 — у ЗША.**
**З 1982 — дырэктар Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.**
**Да 1985 працаваў у Наваёрскай публічнай біліятэцы.**
**Аўтар прац па гісторыі беларускае эміграцыі ў Штатах.**
**У траўні 1991 наведаў Менск.**
**В.Кіпелю было чаго ўспомніць, а нам запісаць.**
**Напрыклад, пра менскае жыцьцё ў даваенны час і пад нямецкай акупацыяй.**

## Домік першага зьезду РСДРП

У часы, калі я прыяжджаў у Менск да дзеда (гэта было ў 30-я гады), дзед надта займацца не хацеў са мной, часам казаў: слухай, ты там папасьві некаму казу, там малака табе дадуць. Ну, і такіх сяброў у дзеда было шмат. Былі Варатніцкія, Кучынскія, на Камароўцы такіх людзей было многа... Ну, што ж. Казу пазнаеш, ці яна напасьвеная, калі вымя добрае, цыцкі стаяць. Значыцца, малако ёсьць. А як накарміць? Ну, ідзеш, зьбіраеш гэты корм. І ведаеце, там, дзе домік РСДРП гэтага, быў такі палісаднічак, і заўсёды было неяк так прыцішана. Мы залезем туды з такімі мяхамі, нарвем часам і касачы, хто для трусоў нарве, а я для козаў часта рваў. І толькі вартаўнік ганяў: Вот січас как дам па жопе!.. А мы праз аграду ўцякалі... Між іншым, мне здаецца, што гэты домік рэставараваны няправільна. Наколькі памятаю, домік фасадам выходзіў на Савецкую вуліцу й ня так далёка ён быў ад Савецкай вуліцы, як цяпер.

## Антон Лёсік

У 42-м годзе я зноў прыехаў у Менск і паступіў ў школу. Мая беларуская мова была ўжо не такая плынная. І я ня тое што саромеўся, але баяўся гаварыць, таму што крыху развучыўся. Прыйшоў я ў гэтую школу (дзе цяпер Дом прыроды на Траецкім прадмесьці), і адна дзяўчына, якая звалася Лялька Кошалева, кажа: ну й масквалі ж нам прыслалі!.. Мяне гэта вельмі ўразіла. Прыйшоў дахаты й маці кажу: я ўжо ў школу не-пай-ду. Мне ўжо сорамна. Ну, тады маці кажа: чакай, пакуль бацька прыйдзе, мы табе ноймем рэпэтытара. І нанялі мне Антона Лёсіка. Вытлумачылі яму, у чым справа, і я цэлы год хадзіў да Антона Лёсіка, вывучаў беларускую мову, так што здаў на чацьверку экзамэн... Але беларускія нацыяналісты былі й тады. Гэтая Лялька Кошалева... Яна й сказала: ну й маскалі ж нам прыслалі!.. Так што ня мы першыя пачыналі...

Антон Лёсік жыў там, дзе царква (не захавалася), у цэнтры горада. Там дзе ГУМ, ад Савецкай (Ленінскі пр.) уніз, па Рэвалюцыйнай. Мне здаецца, пры немцах яна была названая вул. Рагнеды, цяпер — Леніна. Выходзіла на пляц Волі. На рагу (з Інтэрнацыянальнай), на другім паверсе ён жыў. З дачкой.

## Сьвяты

Дажынкі 42-га года — для мяне гэта быў першы масавы беларускі як бы фэстываль. Я казаў, што прыехаў у 42-м годзе. І ўвосень якраз было сьвята Дажынкаў. І ўсе школы, якія былі на Камароўскім раёне, уключаючы й Траецкую гару (што ўжо не Камароўка), зьбіраліся якраз каля гэтага Сьвіслацкага маста, на беразе Сьвіслачы. Пасьля мы маршавалі, свае экспанаты несьлі, снапы, сярпы, ішлі аж пад стадыён Дынама. Былі выдрукаваныя такія нагрудныя значкі. Добра будзе напомніць калекцыянэрам, што калі яны нарвуцца на такі значок, дык гэта было сьвята Дажынкаў 42-га году. Вельмі вялікае сьвята, бо было шмат моладзі. 42-гі год, ён быў нейкі спакайнаваты, яшчэ не было такіх забойстваў, настрой быў сьвяточны. Выдалі нам тады нават такія, не куханы, нейкія бутэрброды, падкармілі трошкі, каб гэта больш так да настрою... Вельмі зрабіла вялікае ўражаньне адзначэньне 25 Сакавіка 44-га году. На пляцы Волі былі дзесяткі тысяч народу, потым была цэлая працэсія, якая йшла на могілкі. Але самае зрабіла большае ўражаньне, гэта ў 43-м ці, магчыма, у 44-м годзе — Вадохрышча. Гэта дзесяткі тысяч, можа 50 тысяч людзей. Вадохрышча было вельмі такое імпазантнае. Людзі зьбіраліся каля царквы ў цэнтры горада, недалёка каля пляцу Волі і йшлі на Сьвіслач, у раён Ляхаўкі працэсіяй. Наперадзе сьвятары. Я думаю, для мянчанаў маладых гэта была новая зьява. Ну, і былі задаволеныя... Яшчэ масавыя працэсіі былі, як хавалі Івапоўскага. Вельмі вялікая працэсія была, калі ў 43-м годзе ў тэатры ўзарвалася бомба, і шмат моладзі загінула. Гэта было ў дзень, здаецца, заснаваньня СБМ. У тэатры была вялікая ўрачыстасьць. Узарвалася бомба, і потым іх хавалі. Хавалі на вайсковых могілках, на рагу Берасьцянскай і Даўгабродзкай. На гэтым рагу была іхняя брацкая магіла. Дарэчы, сына Кушала таксама забіла сярод іх. Яраслава Кушала. Арсеньнева недзе адлюстравала гэта ў сваім вершы.

## Школа

Школа была не такога памеру, як школы перадваенныя. Гэтая была значна меншая. Не было ніякіх дапамаговых кабінэтаў, фізычнага, хімічнага... Але што ў гэтых школах было безумоўна, гэта беларускі дух, беларускасьць. Атмасфэра была досыць напружаная, бо, бачыце, ваенны час, вучні гэта разумелі. Есьці не было чаго. Вучні неяк напружваліся вучыцца, а кожны думаў, як бы кавалак хлеба недзе зьесьці. Голаду не было, але не было й вялікага дастатку. А праграмы, з майго пункту гледжаньня, выконваліся нармальна. Я пры саветах скончыў поўнасьцю шэсьць клясаў і пачаў сёмы кляс, прадаўжаў. Тая самая праграма. Што ж, настаўнікі — яны па памяці гэта ўсё рабілі. У беларускім народзе тым настаўнікам некалі будуць вялікія помнікі ставіцца, бо яны й дзяцей вучылі, і прывівалі гэтую беларускасьць. А цяпер настаўнікі, можа, і расейскасьць гэтую прывіваюць. Падручнікі ў нас былі тыя, што былі надрукаваныя раней. Але ў той школе, дзе я быў, чамусьці ў нейкай прыбудоўцы былі сотні, а можа й тысячы падручнікаў «Гісторыі» Ігнатоўскага. Можа, былі недзе канфіскаваныя, у нейкім выдавецтве... Кожны з вучняў у гэтай школе, дзе я вучыўся, атрымаў ад дырэктара падручнік Ігнатоўскага. Дырэктар у нас быў Пётра Кісель. Яго немцы расстралялі, за сувязь з партызанамі. Такая была вучням дадзеная вэрсія.

## Сьвятар Кушнер

На вайсковых могілках, каля ўваходу ў царкву, магчыма, захавалася невялікая магілка. Гэта магілка сьвятара, прозьвішча якога было Кушнер. Сьвятар Кушнер прыехаў у Менск я ня знаю, калі. Можа, у 42-м, можа, у 43-м годзе, але маё знаёмства зь ім адбылося на пачатку 43-га году. Я нешта рабіў на пагарэлішчы, выкапваў там нешта, напэўна. Ідзе сьвятар па гэтым Горным завулку. Пытаецца: ну, што ты робіш? — Вось, капаю. — Вось, ёсьць царква, у царкве моладзь зьбіраецца, хор ёсьць, ты, напэўна, сьпяваць любіш. — Ну, я люблю сьпяваць, але я ня ведаю... Ён пайшоў. Праз месяцаў тры-чатыры мой сябра, каталік Чэсік Запольскі кажа, што ён туды ў хор ходзіць сьпяваць. І ўжо я чую, што вялікая група моладзі там сьпявае. Два хоры: дарослы, і хор моладзі. Сьвятар ім лекцыі там даваў беларускія. Я вычуў, што ён такую праводзіць лінію, беларускую. Ён шмат моладзі прыцягнуў да царквы, і стараўся даць ім нацыянальнае ўзгадаваньне. На няшчасьце, за якога паўгода сьвятару падкалалі міну. Ці ён ехаў недзе, на міны нарваўся?.. Адным словам, гэты сьвятар загінуў. Паховіны былі вельмі ўрачыстыя, тысячы народу было. Ён быў ахвяра дзейнасьці партызанаў. Ён быў вельмі сьведамы беларус. Я ўжо пазьней даведаўся, ён пісаў нават артыкулы перад вайной на беларускія тэмы. У Варшаве выдаваўся часапіс «Праваслаўны беларус». Айцец Кушнер там якраз супрацоўнічаў. Дык вось, як мы пойдзем на могілкі, я хачу глянуць, ці тая магілка ёсьць.

(Магіла ёсьць, перанесеная на другі бок царквы, адноўленая, новы надпіс зроблены па-расейску, што аўтар згадак прызнаў вялікай абразай памяці сьвятара беларуса).

Запісаў С.Ш.

# Мілаш — пра Гейштара, Гейштар — пра Каліноўскага

**Жывучы ў Каліфорніі, польскі паэт, ляўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш часта й настальгічна згадвае сваё котлішча — Літву. І, мабыць, ужо ня столькі ў гэтых успамінах рамантыкі й натхненьня, колькі дзядоўскага сантымэнту. Людзі старога веку — больш краязнаўцы, чым паэты...**

**Гэтым разам аповяд састарэлага паэта пачынаецца ад паўстаньня 1863 г. Нагодай паслужыла яму другое выданьне Успамінаў Якуба Гейштара* — кіраўніка «белых» і земляка, — якое Мілаш набыў у Кракаве. Набыў і напісаў эсэ «Над Нявяжаю, век дзевятнаццаты», якое пасьля зьявілася ў парыскай *Kultury* №5 за гэты год.**

**Рака Нявяжа (або Нявежыс), прыток Нёмна, цячэ ў самым цэнтры сучаснае Летувы, паміж Коўнам ды Панявежысам. Літвою Мілаш называе Аўкштоту — адсюль цяжкасьці з тлумачэньнем некаторых гістарычных рэаліяў, напрыклад, ролі Каліноўскага, як «літоўскага сэпаратыста»...**

**Якуб Гейштар, — піша Мілаш, — уладальнік маёнтку па-над Нявяжай, быў найбліжшым суседам і прыяцелем майго роднага прадзеда Сымона Сыруця.**

**Нарадзіўся Гейштар у 1827-м. Вучыўся ў Кейданах, пасьля — у шляхецкім інстытуце ў Вільні і далей вывучаў права ў Петэрбургу. Там ягоным прыяцелем быў Зыгмунт Серакоўскі. Зразумела, яны спрачаліся. Гейштар быў праціўнікам узброенай барацьбы і за мэту ставіў вызваленьне сялянаў, як перадумову якіх-кольвек незалежніцкіх акцый.**

**У 1848 годзе петэрбурскага студэнта Серакоўскага, які памкнуўся быў удзельнічаць у рэвалюцыі, схапілі на аўстрыяцкай мяжы й паслалі ў салдаты, але ён так вылучыўся на Каўказе, што зрабіў вайсковую кар'еру й дайшоў да ступені афіцэра генштабу. Тымчасам Гейштар атрымаў маёнтак (які належаў да сям'і ягонае маткі, Леакадзіі з Завішаў) Ignacogród, названы так у гонар Ігната Завішы, які быў афіцэрам у Касьцюшкавым паўстаньні, а пазьней быў пахаваны ў Апіталоках.**

**Ажаніўся Гейштар са сваёй цёткай, роднай сястрой свае маткі. Я не ўяўляю, што ўвогуле магчымае сужэнства з такой блізкай сваячкай. Да таго ж ён меў тады дваццаць чатыры гады, а яна трыццаць адзін. У кожным разе Гейштары мелі шасьцёра дзяцей, пяць сыноў і дачку. Пазьней, як вярнуўся з Сыбіру, Гейштар ажаніўся другі раз і меў яшчэ двух сыноў.**

**Найбольш актыўны ён быў у 1861 годзе, калі пасьля маніхвэсту аб вызваленьні сялянаў былі створаныя губэрнскія камітэты, часткова з прызначаных, часткова з абраных шляхтаю прадстаўнікоў. Абраны ад свайго павету, Гейштар езьдзіў па ваколіцах і назіраў, як маніхвэст праводзіцца ў жыцьцё.**

**Выхаваны на польскай рамантычнай паэзіі (Гейштар быў сябрам Сыракомлі, і калі той памёр, узяў на выхаваньне аднаго зь ягоных сыноў), ён ацэньваў людзей паводле таго, ці «з добрага яны гнязда» («Зь дзяцінства ня маю каставых засьцярогаў, але маю вельмі моцна прышчаплёную веру ў прыстойнае альбо благое «гняздо»). Найцяжэйшы закід, які ён робіць Канстантаму Каліноўскаму (хоць лічыць яго найвыбітнейшай постацьцю 1863 году) — гэта няведаньне людзей і атачэньне сябе лісьліўцамі, пасрэднасьцямі, тыпамі сумлеўнага характару.**

**Прызнаюся, я ня маю яснага ўяўленьня пра становішча сялянаў у Літве перад маніхвэстам цара 1861 году й пасьля яго. Але Жмудзь (магчыма таму, што каталіцкая) не была арэнай такіх відовішчаў як Беларусь, Валынь ці Украіна, дзе выбухнула нянавісьць да ляхаў альбо паноў.**

**Для Гейштара ягоны край быў часткай ня Рэчы Паспалітай, а папросту — Польшчы, у яе межах 1772 году. Такое перакананьне выглядае сёньня крыху нелягічна, бо й сам Гейштар сьцьвярджае: «кожны разумны чалавек мусіць прызнаць, што польскасьць у Літве, на Беларусі, Украіне й Валыні пераважна прадстаўляе шляхта».**

**Камітэт «белых», галоўным творцам якога быў Гейштар, спрабаваў затрымаць паўстаньне, але яно выбухнула ў самім Каралеўстве...**

**Арыштавалі Гейштара 31 ліпеня 1863 году. Ён атрымаў прысуд — 12 гадоў цяжкіх работ, пазбаўленьне правоў, канфіскацыя маёнтку. Кару пачаў адбываць на солевых варэльнях каля Іркуцку. Умовы тады былі не такія цяжкія, як у сталінскіх гулагах. Дзень працы цягнуўся 5 гадзін. Гейштар меў шмат вольнага часу і там пачаў пісаць свае ўспаміны. У 1868 яму дазволілі жыць у Іркуцку, дзе ён гандляваў абуткам. А ў 1872 быў вызвалены і асеў у Польшчы.**

**У некалькіх разьдзелах успаміны датычаць спрэчкі пра стасункі паміж Літвой і Каронай, бо ня ўсе, як Гейштар, былі прыхільнікамі адной Польшчы замест Рэчы Паспалітай. Тут галоўным ягоным праціўнікам быў Канстанты Каліноўскі. Варункі дваццатага стагодзьдзя цалкам зьмянілі гэтую постаць, а з-за таго, што «umiarł szybko jadą», няшмат засталося ад ягоных сапраўдных поглядаў ды памкненьняў.**



*Малюнак С.Харэўскага.*

*Першае выданьне: Pamiętniki Jakuba Gieysztora z lat 1857-1865. Wilno, 1913.

# Вільня і край



* * *

*Калі павернецца час, і на бруку вулак*
*ад грукату ботаў ня здасца бясконцым дзень,*
*і зь дзіўнае высі сарвуцца актавы забытых музык,*
*на вузкія рукі пагаслае срэбра надзенем...*
*Хай собіць спаткацца нам у Зялёным Штралі*
*аднойчы пасьля бескалёрнай, нямой зімы.*
*Тут нашыя цені адныя, бяз нас, блукалі,*
*Тут нашыя цені і зараз жывыя.*
*Хоць мёртвыя мы.*

Т.С.

## Чыйсьці набытак — чыясьці страта

Віленскі гарсавет прыняў пастанову, каб вярнуць Траецкую царкву й званіцу ўніяцкай суполцы вернікаў. На гэтую царкву, што разьмешчаная ў двары Базылянскіх муроў, прэтэндавала таксама тутэйшая расейская праваслаўная царква. Уніяцкая ўкраінская суполка мае намер патроху «вяртаць» і самыя муры, каб выкарыстоўваць іх паводле першапачатковага прызначэньня — як уніяцкі кляштар. Аднаўленьне ў Базылянскіх мурох беларускага нацыянальнага цэнтру, які йснаваў тут у міжваенным часе, выглядае праблематычна. Гэтаксама, як і вяртаньне беларусам праваслаўнае Пятніцкае царквы, пра якую НН пісала ў 1-м нумары, і якая 31 траўня перададзена ва ўласнасьць Сьвята-Духаву манастыру. Апрача набажэнстваў, тут будзе праводзіць свае сустрэчы й гутаркі таварыства «Живой колос». Нагадаем, што Пятніцкая — першая каменная праваслаўная царква ў Вільні, заснаваная віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай у першай палове XIV ст. У 1920-30-я гады тут яшчэ маліліся па-беларуску.

## Крывы замак у Вільні

Віленскія археолягі знайшлі сьляды трэйцяга зь вядомых гарадзкіх замкаў — Крывога. На Лысай (раней — Крывой) гары каля Трох крыжоў яны адкапалі частку абарончага валу Крывога замка. Сьцяна была падвойная, мела таўшчыню каля трох мэтраў. Крывы замак згарэў 16 верасьня 1390 г. і з тых часоў не аднаўляўся. Археолягі лічаць, што да часу будаўніцтва мураваных замкаў гэты быў у Вільні важнейшым. Ён займаў плошчу 200м удоўжкі й 100м — ушыркі.

## Памёр Віктар Кутарга

21 чэрвеня памёр Віктар Кутарга — адзін з пачынальнікаў першага пасьляваннага згуртаваньня беларусаў у Вільні «Сябрына». Кутарга быў лекарам, кандыдатам мэдыцынскіх навук, напісаў некалькі працаў па гісторыі мэдыцыны. Ён нашчадак вядомых беларускіх вучоных першай паловы XIX стагодзьдзя, якія паходзілі з Амсьціслава Магілеўскае губэрні. Ягоныя прадзеды: Міхал — знаны гісторык, прафэсар Пецярбурскага ўнівэрсытэту, і Сьцяпан — вядомы вучоны ў галіне прыродазнаўства, заалёгіі й геалёгіі. Віктар Кутарга нарадзіўся 4 студзеня 1920 году ў Петрашунах каля

# Віленская вуліца

Лявон Луцкевіч

**Сёньня мы працягваем нашыя вандроўкі па беларускай Вільні.**
**У першым нумары НН**
**была Пятніцкая царква.**
**У гэтым — Віленская вуліца.**
**У наступных нумарох будуць:**
**Лявон Вітан-Дубейкаўскі,**
**інжынэр-архітэктар,**
**які жыў у Вільні й будаваў Вільню**
**ў міжваенныя гады;**
**касьцёл сьвятога Міхала,**
**дзе пахаваны канцлер Л.Сапега,**
**дзе служыў кс. Адам Станкевіч,**
**дзе ў вайну перахоўваліся фонды**
**Віленскага беларускага музэя**
**ймя Йвана Луцкевіча;**
**могілкі Роса й Ліпаўка;**
**Лукіскі пляц і**
**Сявятога Юрыя-Георгіеўскі-**
**А.Міцкевіча-Леніна-Сталіна-**
**Гэдымінаўскі праспэкт...**
**Няма пачатку й няма канца**
**беларускім мясьцінам**
**старое Вільні.**
**Неўзабаве ў НН**
**будзе выдрукаваны плян Вільні**
**— з усімі тымі мясьцінамі.**
**Але гэтым разам вандроўка —**
**па Віленскай.**




**Яшчэ нядаўна яна звалася імем пісьменьніка Людаса Гіры. Але й пасьля перайменаваньня ёй была зьверненая не першапачатковая назва. Кажуць, што яна й раней ужо не аднойчы мяняла сваю назву. Спачатку звалася Вялейскай, бо злучала стары горад зь Вяльлёй. Напрыканцы вуліцы была пераправа праз раку. Калі зьявіўся першы мост на другі бок (тады яшчэ драўляны на каменных быках), дык вуліцу назвалі Мастовай. Пасьля нейкі час называлі імем сьвятой Кацярыны — ад касьцёла, які мы хутка пабачым. Пазьней зноў вярнулася назва Вялейская, а ўжо ў XIX стагодзьдзі ўжываліся дзьве назвы: Вялейская й Віленская. Апошняя гадоў сто таму і ўзяла перавагу. Віленская (або Vilniaus).**

**Дарэчы, зьмянялася ня толькі назва, але й нумарацыя дамоў. Зараз яна йдзе ў адваротным напрамку. Але мы пачнем адтуль, адкуль вуліца пачыналася ў найбольш цікавыя для нас часы: са скрыжаваньня Нямецкай (Vokiečiu), Троцкай (Traku) і Дамініканскай (Dominikonu).**

**Справа — адносна новы, пасьляваенны будынак сярэдняй школы ймя паэткі Саламеі Нярыс, пабудаваны на мейсцы збураных у вайну будынкаў, якія, мабыць, колісь уваходзілі ў комплекс Дамініканскага кляштару. За школай — помнік паэткі. Зьлева — даваенныя жылыя дамы. На самым рагу мясьцілася некалі знаная кавярня Рудніцкага...**

**Тады кавярні былі крыху іншыя. Людзі прыходзілі сюды ня толькі выпіць кубачак кавы ды перакусіць, але й пасядзець, пагартаць сьвежыя газэты (яны там і знаходзіліся дзеля гэтай мэты), паразмаўляць... Яшчэ больш вядомыя былі ў Вільні кавярні «чырвоны» й «зялёны» Штраль і літарацкая.**

**На тым самым баку вуліцы стаіць дом №41 (колісь 8), азначаны як помнік архітэктуры XVII-XVIII стст. У 20-х гадах тут мясьціліся Беларускі каапэратыўны банк, Студэнцкі саюз, рэдакцыі часопісаў Заранка й Саха. Тут жыў літаратурны крытык Антон Навіна і — ад маленства да сямігадовага ўзросту — аўтар гэтых радкоў:**



*У той час, калі я зьявіўся на сьвет, сям'я наша жыла ў дазолі вялікім, дзівосным і крыху нясакладным памяшканьні. Якраз там у маёй дзіцячай сьвядомасьці адлюстраваліся першыя абразкі навакольнага сьвету.*

*Хіба не памылюся, калі аднясу гэта ў часе да канца 1924 — пачатку 1925 году.*

*Памяшканьне знаходзілася на другім паверсе й складалася зь дзьвюх частак; нават узровень падлогі быў розны. Зь сенцаў, цераз вялікі, амаль цёмны пакой, дзе ніхто ня жыў, налева праз калідорчык, падымаючыся на якія тры-чатыры прыступкі, уваходзілася ў тую частку, дзе мы жылі. Там былі два невялікія пакойчыкі, кухня й іншыя падсобныя памяшканьні. У тым вялікім паўцёмным пакоі быў старажытны камін, але я ня памятаю, каб яго калі-небудзь прапальвалі. З таго пакою ўваходзілася ў яшчэ адну, больш парадную частку кватэры, з двух пакояў, якія выходзілі вокнамі на касьцёл сьв. Кацярыны. Нас, малых, сюды амаль ніколі не пускалі, бо гэтыя пакоі займалі беларускія грамадзкія арганізацыі. Столі тут былі значна вышэйшыя, чымся ў нашых пакойчыках. У гэтай жа частцы знаходзіўся яшчэ адзін пакой, даўгі, з вакном на панадворак. Гэта быў рабочы кабінэт бацькі.*

*Бацька быў дужа заняты рознымі справамі. Нас (майго брата Юрку й мяне) вельмі цешыла, калі ён дазваляў нам пабыць у сваім кабінэце.*

*Тут мясьцілася бацькава бібліятэка, было шмат кніжак і розных папераў. Чапаць усяго гэтага не дазвалялася. А яшчэ там было мноства цікавых і дзівосных рэчаў. Вялікі стол з старасьвецкім наборам для атраманту. У ім была пясочніца з дробненькім пясочкам, які некалі ўжывалі да высушваньня напісанага атрамантам тэксту. Сумняваюся, ці бацька ёю карыстаўся, але пясочак там быў — гэта я сам праверыў. Стаяла на стале й ажурная бронзавая рамка з фатаграфіяй маці. Паперы прыціскаліся наканечнікам артылерыйскага снарада зь мінулае вайны. Была таксама настольная лямпа зь зялёнай шкляной засьняй. Яркае сьвятло ад яе падала на стол, у той час, як усё ў пакоі заставалася ва ўтульным прыцемку.*

*Вялікая радасьць была, калі бацька прыходзіў да нас у тую «нашую» частку кватэры. Зь ім заўсёды было цікава.*

*Памятаю нашае памяшканьне: вельмі занядбанае, даўно не рамантаванае. Сьцены былі брудныя, з плямамі, і іх можна было не шкадаваць. Бацька маляваў нам на іх алавіком чорцікаў — з рогамі, капытамі, з доўгімі хвастамі, але зусім ня страшных, толькі сьмешных. Я чамусьці баяўся цемры, і калі мяне клалі спаць і гасілі сьвятло, дык я крыху махляваў і казаў дарослым, што баюся чорцікаў. Трэба ж было неяк схаваць свой страх, хоць бы і перад Юркам, які не баяўся, да таго ж мне проста не хацелася заставацца аднаму, а мяне, як самага малога, найраней заганялі спаць.*

***Пазьней, як ужо быў зроблены рамонт, і сьцены абклеілі шпалерамі, бацька й тады часам маляваў для нас чорцікаў на паперы.***

*Нам вельмі падабалася, бо мы так не маглі, хоць малявалі шмат. Асабліва пасьля шпацыраў па горадзе, дзе езьдзілі тады якія два дзесяткі аўтобусаў — кожны іншай маркі, іншага колеру, іншай велічыні, кожны належаў да іншага гаспадара. Кожны аўтобус і аўтамабіль — гэта быў індывідуум. Мы іх сустракалі на вуліцах як старых знаёмых, а ў нашых сшытках былі старанна зарысаваныя іх выявы.*

*Колькі крыўды перажылі мы, калі аднойчы зьявіліся польскія паліцыянты й
ператрэсьлі ўсю нашу хату, шукаючы доказаў крамольнае дзейнасьці бацькі!*

*Не абмінулі й нашага дзіцячага пакойчыка, перавярнулі ўсе пасьцелі, раскідалі цацкі, таптaлі малюнкі й крышылі каляровыя алавікі. Праўда, ні гранатаў, ні кулямётаў яны ў нас не знайшлі. Тым больш дараваць такія паводзіны было нельга.*

*Мне не было яшчэ й пяці гадоў, і ўся мая нянавісьць да рэжыму вылілася ў тым, што ў сшытку для малюнкаў я старанна выводзіў: «палякі паганцы». Горшае лаянкі ў маім лексіконе тады яшчэ не было...*

*Гэтак у пяць гадоў я ўжо адчуваў сябе на баку апазыцыі да існае ўлады, і лёс наканаваў мне гэта, мабыць, на ўсё жыцьцё...*

*Бацька вельмі рупіўся, каб папаўняць фонды музэю, створанага ягоным братам Іванам. Аднойчы ён прынес дадому вялізны, цяжкі двуручны меч. Гэта быў меч віленскага ката, якім той адсякаў галовы асуджаных на сьмерць. Бацька прыдбаў меч у знанага антыквара Рапапорта, крама якога знаходзілася, здаецца, таксама на Віленскай вуліцы. Сёньня гэты меч экспануецца ў гісторыка-этнаграфічным музэі Літвы.*

*Радасны настрой бацькі ад такога каштоўнага набытку перадаўся й дзецям. Меч быў прынесены ў наш дзіцячы пакой. Ён быў заржавелы й брудны. Зараз зьявіліся анучы й бутэлька з нафтаю. (У той час страву гатавалі на «прымусах», таму нафта была ў кожнай гаспадыні пад рукою.) Мы ўтрох: бацька, Юрка ды я, — пачалі заўзята чысьціць ды адмываць шырокае, вострае з двух бакоў лязо мяча. Па ўсёй яго паверхні былі выгравіраваныя рысункі, якія паступова рабіліся відочнымі. Бацька з захапленьнем апавядаў нам усё, што ведаў пра гэты меч...*

**Цяпер гэты дом капітальна рэстаўруецца. І ужо ніколі не давядзецца пабачыць у ім тое крыху недарэчнае памяшканьне №3, дзе прайшлі гады самага раньняга дзяцінства.**

**Насупраць, праз вуліцу, узносіцца касьцёл сьв. Кацярыны, збудаваны ў XVII стагодзьдзі. Гэта тыповы прыклад віленскага барока.**

**Дзесяцігодзьдзямі касьцёл быў зачынены, выкарыстоўваўся, як склад, а зараз аднаўляецца й будзе перададзены вернікам.**



За касьцёлам — сквэр, у сквэры — невялічкі помнік кампазытару Станіславу Манюшку, пачынальніку беларускай і польскай клясычнай опэры.



**Манюшка родам зь Меншчыны, але больш за дваццаць гадоў пражыў у Вільні, працаваў арганістам у касьцёле сьв. Яна, што пры ўнівэрсытэце.**

**Зірнуўшы на другі бок вуліцы, убачым вялікі будынак пад №39 (некалі №10).**

**Цяпер тут Дом настаўніка, а да першай сусьветнай вайны тут быў гімнастычны клюб «Сокал»; тут ставіліся й беларускія спэктаклі, у тым ліку, прэм'ера Купалаўскай «Паўлінкі» ў 1913 годзе.**



Зараз за гэтым — наступны дом, які ў міжваенным часе меў №12 (цяпер №37). У 20-я гады тут быў цэнтар беларускага палітычнага жыцьця, нейкі час знаходзіўся Цэнтральны сакратарыят Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Мэмары-

# Занатоўкі мастака



## Выклікаюць сумлеў...

Пераклады вершаў, за рэдкім выключэньнем, выклікаюць сумлеў.

Выклікае сумлеў датаваньне археалягічных знаходак.

Вера ва ўсемагутнасьць рэстаўрацыі таксама выклікае ў мяне сумлеў.

## Зачароўвае...

Зачароўваюць хутказьменлівыя аблокі на густа-блакітным шаўковым небе, асабліва апошнімі верасьнёўскімі днямі.

Вадаспад у парку спачатку вабіць... Падыходзіш, глядзіш на заслону з тонкіх струменяў, на лёгкія пухкія шапкі шуму, на вірлівыя пераплаўленьні чорнае глыбіні... Вадаспады зачароўваюць.

Люстэркі, пастаўленыя адно насупраць другога, зачароўваюць; яшчэ больш зачароўвае невялікі пакой, сьцены, столь і падлога якога абшытыя люстэркамі. Адна, хай і вельмі вялікая люстраная сьцяна, ніколі не зачаруе.

## Лёгка запомніць...

Лёгка запамінаюцца прозьвішчы старшаклясьнікаў і старшакурсьнікаў. Спытаюцца: з кім ты вучыўся? — і пачынаеш называць спачатку старэйшых, потым аднагодкаў і амаль ніколі не называеш малодшых.

Дзіцячыя вершы — ня блытайце зь вершамі для дзяцей — лёгка запамінаюцца, раскажаш адзін-два разы й ведаеш. Яны выразныя й простыя. Вось прыклад:

*Туры, туры, туры, туры...*
*Пайшлі куры на хаўтуры.*
*Верабейка памёр,*
*Яму вечны пакой.*
*Ён на лаўцы ляжыць.*
*З жопы жыжка бяжыць.*

Помню зь дзяцінства...

Запомніліся й запалкі, што мне, пяцігадоваму, давалі ў дарогу. Запалак было сем, як і станцый, што я павінен быў мінаць на цягніку: Менск-таварная, Памысьлішчы, Пціч, Воўкавічы, Фаніпаль, Бярэжа, Станькава. На кожнай станцыі, калі кранаўся цягнік, я ламаў запалку напалам. А калі цэлых запалак не заставалася, сыходзіў на наступнай станцыі — Койданава.

Маміна маці, баба Ядзя, каляндарным лістком падпальвала ў печы.

Бацькава маці, баба Броня, казала, каб не даваў руку старым людзям, калі яны зьбіраюцца паміраць. Тлумачыла тым, што чортава сіла не дае лёгкай сьмерці, а праз руку можна гэтую сілу перадаць іншаму чалавеку. Жанчына лягчэй перадае хлопцу, а мужчына — дзяўчыне. Баба Броня, калі расказвала, сядзела на ложку, а я тым часам сядзеў за сталом і маляваў чырвоныя дзьверы дзедавай хаты. Прайшло, можа, хвілінаў пяць, і я забыўся на бабіны словы. А яна раптам — на ўсю хату: «Прасіць будуць, а ты не давай рукі!»... Так і запомнілася папярэджаньне.

## Прыемна трымаць у руцэ...

Прафэсыйна й таму крыху нядбайна завостраны аловак прыемна трымаць у руцэ.

Толькі што знойдзеную ў археалягічным шурфе касьцяную шахматную фігурку прыемна паказваць, узважваючы на далоні.

Прыемна трымаць у руцэ пясочны гадзіньнік; здаецца, пакладзі яго на бок — і спыніцца час.

## Увасабляюць чысьціню...

Састаўленыя з гіпсавых шматграньнікаў, конусаў, цыліндраў, тораў, шароў і белых крухмальных драпіровак нацюрморты выклікаюць адчуваньне гармоніі і ўвасабляюць чысьціню.

Ад сувою льнянога палатна павявае прахалодаю летняга ранку.

Красавік. Сьнег сыйшоў. На адхонах чыгункі гарыць падпаленая дзецьмі леташняя трава. Дым незаўважна зьліваецца зь лёгкай смугою. У прыбраных садах хлопчыкі кладуць вогнішчы. Назаву ўсё гэта — вясновае ачышчэньне.

## Міжволі зьвяртаеш увагу...

Міжволі зьвяртаеш увагу на нумар білета ў кіно. Усё адно, ці ён 8591992, ці 2991958, розьніцы ну аніякай, а ўвагу зьвяртаеш.

Міжволі зьвяртаеш увагу на флюарэсцэнтавыя махеравыя шапкі, якія любяць насіць жанчыны з ускраін.

Жалезабетонны плот, сама надзейнасьць, і раптам у ім дзірка. Міжволі спынісься й зазірнеш.

## На што цяжка глядзець...

Цяжка глядзець на доўгі байкавы бальнічны халат колеру кавы з малаком.

На мармуровы бюст з адбітым, а потым прыклееным носам, цяжка глядзець.

На ўласную працу, зробленую толькі дзеля заробку, глядзець цяжка.

Цяжка глядзець на чалавека, які заносіць у тралейбус вялікі жалобны вянок.

## Нечаканасьці...

Ідэальная чысьціня патыхае хлёркаю.

Калі маеш адпаведны настрой, на дарожным знаку «STOP!» можна прачытаць «SOS!» — ратуйце нашы душы!

## Назіраньні...

Самастойнасьць патрабуе ўпэўненасьці, а залежнасьць — веры.

Жыцьцё... Адныя пасьпяваюць апрануцца, другія — крыкнуць... і ўсё.

Творчасьць — барацьба з самагубствам.

Мы няздатныя ўбачыць будучыню, бо жывем тварам да мінуўшчыны.

Чым даражэйшы кубак з дробнай расколінай, тым больш непрыемна зь яго піць.

## Зьдзіўляе...

Незнаёмая жанчына зьдзівіла мяне надзвычайным зьнешнім падабенствам да маёй маці. Дзіўна, што прырода так жорстка жартуе з нашае здольнасьці адрозьніваць адно ад аднаго. Аднаго разу я нават бачыў «самога сябе». Я... Ён... ня ведаю, як пісаць, таму пакіну сказ бяз дзейніка... ішоў па другім баку вуліцы, у процілеглым кірунку. Я адрозьніваўся тым, што заўважыў, тады як... назаву яго — іншы... як іншы ня бачыў мяне.

## Хацеў, а не зрабіў...

У часе вучобы хацеў напісаць невялікі эцюд — зялёная паляна, за палянаю — шапаценьне зялёных шатаў, а па-над імі — роўнае, нібы мэталёвае, сьветла-зялёнае неба. Эцюд не напісаўся. Тыя шаты й паляна дагэтуль успамінаюцца й часам сьняцца. Калі я пачаў эцюд — першы раз у жыцьці адчуў абмежаванасьць жывапісу, пэўна, таму й пакінуў пісаць зялёную паляну пад зялёным небам.

## Сьвята...

У мужчын на душы сьвята, калі яны трымаюць конаўкі, у якіх гарыць сьпірт.

У жанчын на душы сьвята, калі яны глядзяць на новыя фатакарткі сваіх дзяцей.

У хлапчука сьвята, калі яму першы раз дазволілі самому запаліць запалку.

У дзяўчынкі сьвята, калі яна фатаграфуецца побач зь нявестай.

## Супакойвае...

Вастрэньне простых алоўкаў мяне супакойвае.

*Адам Глёбус*

# Апавяданьне «Стары дом»

*(Працяг са старонкі 1)*

паміж дошкамі, сочыцца рэдзенькае сьвятло... Карацей, у хаце набор самай звычайнай надобы. Галоўнае — ляжак, на які наш шукальнік шчасьця, стомлены марнымі пошукамі й доўгім блуканьнем па прадмесных вуліцах, кладзецца адпачыць і засынае аж да раньня.

Наступнага дня ўсё, як зазвычай: абуджэньне ў чужым доме, праца, вяртаньне пад дакучлівым верасьнёўскім даждджом у абрыдлы інтэрнат, ляжаньне на ложку, гукі нечай размовы за сьцяною і страшэнная апатыя да ўсяго. Зрэшты, можна падкрэсьліць, што ў вапатычным настроі маладога чалавека ўвачавідкі праступаюць рысы той абсурднасьці ўсяго існага, пра якую я ўжо згадваў раней. Няхай яму здаецца, быццам ён у гэтым жыцьці — нейкая выпадковасьць, бязглуздая недарэчнасьць. Быццам ён знаходзіцца зусім ня там, дзе павінен быць, дыхае не сваім паветрам і, ня могучы ні за што ўхапіцца, падае ў цёмную бездань. Няхай ягонае жыцьцё ўяўляецца яму сукупнасьцю выпадковых ланцужкоў даміно, якія кладзе на стол жорсткая й невядомая яму рука. І няхай вострая туга па іншых, лепшых часінах на хвілю блісьне ў гэтай апраметнай бездані, а потым апануе роспачная здагадка пра тое, што ў самой прыродзе быцьця, магчыма, ляжыць злом, выпадковасьць, абсурд і ўсялякія пошукі сэнсу — адно толькі спроба запоўніць пустэчу існаваньня мудрагелістымі карункамі думак і ўяўленьняў, заглушыць страх перад халоднаю моўчаю гэтай пустэчы... У гэткай плыні сумных развагаў герой наш нарэшце засынае.

І зноў мяне цьвеліць спакуса — даць у апавяданьні фрагмэнт сну, які штосьці праясьніць у вабраным мною сюжэце ды штосьці йстотнае дадасьць да яго. Напрыклад: шэраг змрочных, рыхт у рыхт падобных адна да адной цэляў, па якіх ідзе наш герой у сьне. І адчуваньне, што йсьці ўжо ня варта, што лепш ужо спыніцца ў вадной з цэляў, няважна ў якой, бо ўсё на сьвеце — толькі паўтарэньне таго самага. Аднак, нягледзячы на спакусу, мяне ахалоджвае думка пра тое, што прыём гэты (выкарыстаньне сну) ў літаратуры досыць зацяганы, і таму сон нашага героя самы звычайны, ніяк не зьвязаны са старым домам, дзе ён надоечы начаваў. Тым больш, што ўвесь сэнс тут у моманьце абуджэньня. Спачатку ён не разумее, дзе апынуўся, потым — зьдзіўленьне і разам з тым непамыснае адчуваньне, што нешта нядобрае здарылася з часам. Ён спрабуе асэнсаваць нязвыклую прыгоду, даць ёй *разумнае* тлумачэньне (магчыма, хлопцы з інтэрнату перанесьлі яго сюды ноччу?). Побач з загадкавым і трывожным шмат будзённага й сьмешнага (адзеньне засталося ў інтэрнаце)...

Наступнага ранку наш прыгаломшаны герой зноў прачынаецца ў той хаце, на той самай канапе, і да ягонае сьвядомасьці даходзіць, што ён патрапіў у незвычайную пастку. Ён ня йдзе на працу, уважліва аглядае ўсё ў доме і ў садзе, аднак нічога таямнічага й загадкавага не знаходзіць. Зноў жа, мне карціць зьбіцца на дэтэктыўна-фантастычныя торы, маўляў, ёсьць у старым доме нешта такое, што дае хоць бы намёк на разгадку. Мне ўжо хочацца, дзеля займальнасьці, увесьці новага пэрсанажа і такім чынам закруціць нашага героя й гэтую загадкавую істоту ў коле неверагодных падзеяў і ўчынкаў. Але я ўстрымліваюся і ад чарговае панады, бо галоўнае тут тое, што дом-пастка сам па сабе — невытлумачальная непазьбежнасьць, якую застаецца адно толькі *прыняць на веру*. Яе прынцыпова нельга спасьцігнуць розумам, яна — пазатлумачальная. А таму, адагнаўшы спакусу, я пакідаю ў вапавяданьні толькі марныя высілкі героя выбавіцца з пасткі, у якую ён так неспадзявана патрапіў. Герой спрабуе не начаваць у інтэрнаце, спрабуе ўвогуле ня спаць, уцякае на электрычцы за горад, нават, спальвае жудлівы дом (дом жа, як тая птушка Фэнікс, варта было нашаму герою заснуць, аднавіўся з попелу ў сваім першапачатковым выглядзе). Нарэшце, апошні высілак: самалёт пераносіць яго за дзьве тысячы кілямэтраў, на ўзьбярэжжа мора. Начаваньне ў гатэлі — гэтым разам нічога не здараецца! — і кволая надзея на збавеньне. А на другі ранак — тая самая хата, тая самая рыпучая канапа, гольле зьдзічэлага саду за вакном...

Вось, бадай што, і ўсё апавяданьне. Для мяне тут важнае тое, што аніякіх спосабаў вырвацца з заганнага кола не існуе. Застаецца хіба самагубства або (што больш верагодна) зьмірэньне й пакора перад непазьбежнасьцю, тым больш, што амаль нічога не замінае маладому чалавеку жыць звычайным ягоным жыцьцём... Я пазьбягаю новае спакусы — выдумляць, як жудлівы дом-пастка

# Гаворачы —дагаворвайце

**Сяргей Запрудзкі**

**Сёньня, калі на бацькоўскім сходзе
ў школе нехта адзін прапануе вынесьці
з клясы партрэт Леніна,
разгараецца спрэчка.
Абавязкова знаходзіцца нехта другі,
які пачынае даводзіць,
што нельга перарабіць гісторыю,
а таму няхай Ленін застаецца,
як «сьведчаньне пакутнага шляху
краіны да сапраўдных каштоўнасьцяў»
і г.д.
Такая самая спрэчка адбываецца
і вакол школьнай праграмы
па літаратуры.
Нехта адзін кажа —
выключыць пэўны твор,
нехта другі — не выключаць,
але адмыслова патлумачыць...
Толькі пры чым тут дзеці?
Калі Ленін — гэта ўсё,
што было ў вашым жыцьці,
і цяпер,
зразумеўшы неідэальнасьць ідэалу,
вы пачынаеце аблепліваць
ягоны партрэт дапісачкамі,
удакладненьнямі, новымі цэньнікамі —
вы ўдакладняеце ўласнае жыцьцё,
уласнае разуменьне, для сябе.
І гэта патрэбна толькі вам.
Але дзецям гэта ўсё — навошта?..**

У нашым літаратуразнаўстве ўчынілася палеміка. Знаны крытык і літаратуразнаўца, аўтар кніжак і падручнікаў Рыгор Шкраба запярэчыў маладому паэту Алесю Бадаку. Запярэчыў рэзка, несаступна. Ажно Бадака падтрымала крытык Тамара Чабан, і Р.Шкраба зноў выступіў у друку. Ужо супраць дваіх.

За што спрэчка?

Вядомы дасьледчык не згадзіўся зь «нігілісцкімі» й «дылетанцкімі» ацэнкамі купалавых вершаў «Арлянятам» і паэмы «Над ракой Арэсай», а таксама з развагамі А.Бадака пра школьныя падручнікі, пра тое, што верш А.Куляшова «Камуністы» трэба выключыць са школьнай праграмы. Маўляў, «з песьні слова ня выкінеш». У доказ нязгоды Р.Шкраба прывёў свае аргумэнты:

Ад паэмы «Над ракой Арэсай» пралягла «прамая дарога» да «ляўкоўскага» цыклю, які «быў падзеяй ва ўсёй савецкай літаратуры».

Верш «Камуністы» выкасоўваць з праграмы нельга, яго «трэба тлумачыць». «Хто, па якому праву хоча адабраць у А.Куляшова вынашаныя ў сэрцы словы: «Я хачу, каб называўся камуністам родны сын мой, а таксама сынаў сын»?» — пытаецца літаратуразнавец.

Верш Купалы «Арлянятам» — дасканалы. Паэт уклаў у яго многа свайго, асабістага, і верш лёгка запамінаецца.

Тутака можна было б засумнявацца ў высокіх вартасьцях «ляўкоўскага» цыклю і, разам, паэмы «Над ракой Арэсай». Тутака можна было б запярэчыць, сказаўшы, што ніхто ніякіх радкоў у Куляшова не адбірае, гаворка йдзе пра іншае. Тутака можна было б паспрачацца пра мастацкія асаблівасьці верша «Арлянятам».

Увогуле, тут ёсьць падставы для палемікі.

Затое іх няма ў іншым выпадку, калі Р.Шкраба разважае, ці паўплываў партыйна-дзяржаўны дыктат на творчасьць лепшых беларускіх пісьменьнікаў. На думку дасьледчыка — не, не паўплываў. Ні Купала «не сядзеў з пяром і не чакаў указаньня, пра што й як яму пісаць», ні Чорны ніколі «не пісаў так, нібы яго пяром вадзіла нейкая чужая рука». «Я вельмі высокай думкі пра Янку Купалу, — піша Р.Шкраба, — каб казаць, што ён не супраціўляўся абставінам, ішоў на кампраміс са сваім сумленьнем...» «Нельга ўяўляць так, — упэўнены Р.Шкраба, — што Я.Купала быў гатовы йсьці на ўступкі, ахвяруючы сваімі перакананьнямі».

**Бог з Вамі, Рыгор Васілевіч, калі Вы, знаўца беларускай савецкай літаратуры, лічыце, што падобнае ўявіць немагчыма. Але я — гэта «ўяўляю».**

Я «ўяўляю», як гэта магло быць у 1930-м. Ці ў 37-м. Або вось — у 1933-м годзе.

Тады партыйна-савецкія ўлады Беларусі з дапамогай аргкамітэту Саюза пісьменьнікаў грамілі што было жывое ў беларускай літаратуры. Гэтай высакароднай справе была прыдзелена пільная ўвага, і 28 студзеня ЦК КПБ прыняў спэцыяльную пастанову «Аб фактах прасочваньня клясава-варожых уплываў у мастацкай літаратуры БССР».

Купала ў гэтай пастанове крытыкаваўся ўскосна: ягоная «няправільная» дарэвалюцыйная творчасьць стымулявала напісаньне ў 1932 годзе крытыкам А.Сідарэнкам «няправільнага» артыкула. «Няправільны» гэты твор, прысьвечаны Купалу, надрукаваў С.Баранавых. «Няправільныя» вершы паэта прапусьціў у VI том збору твораў паэта П.Галавач. Пісьменьніцкі аргкамітэт падхапіў указаньні ЦК і ў сваёй, пісьменьніцкай пастанове зьвярнуў увагу на неабходнасьць «далейшай творчай актывізацыі Купалы й большай актывізацыі яго ў змаганьні з рэшткамі контррэвалюцыйных беларускіх нацыянал-дэмакратаў».

Я «ўяўляю», як у сярэдзіне лютага тагачасны нарком асьветы Беларусі Антон Платун (у пастанове ЦК ён таксама атрымаў пытлю — «за невыстарчальнае бальшавіцкае кіраўніцтва даручанай яму ЦК справай») выступаў на IV сэсіі ЦВК БССР.

У сваёй прамове нарком крытычна выказаўся пра артыкул Сідарэнкі, у якім была пастаўлена пад сумлеў «уся правільная крытыка, якую мы мелі на паасобныя творы Янкі Купалы». Платун згадаў «найбольш яўныя антысавецкія творы» паэта й занадта мяккую іх крытыку Сідарэнкам. А потым сказаў: «Я думаю, што мы маем права патрабаваць ад Янкі Купалы, як ад народнага паэты — савецкая ўлада дала яму гэтую ганаровую годнасьць — каб ён сказаў свае слова аб гэтых вылазках».

На пачатку 1933 году, калі гаварыліся гэтыя словы, пісьменьніцкія пёры, рукі, языкі й галовы яшчэ не да канца былі абагулены ў вадным літарацкім хаўрусе, і сяму-таму, відаць, тады яшчэ было няўцямна, што пры дапамозе «інжынэраў чалавечых душ» можна вырашаць розныя партыйна-палітычныя задачы. Таму пасьля сэсіі ЦВК некаторыя наіўныя творцы падыходзілі да Платуна й казалі яму, што ён завельмі рэзка паставіўся да Купалы. Ды нарком зь імі не згадзіўся. І ўжо неўзабаве, у сакавіку, на пленуме СП Беларусі, ён сказаў: «Я лічу, што я зрабіў правільна. Калі Янка Купала доўгі час не адкідваў з агідай спэкуляцыі сваім імем, дык я меў права і правільна зрабіў, што так паставіў пытаньне...»

Лёгка было яму сказаць гэта. Балазе, пасьля ягонага выступу на сэсіі ЦВК Купала ня ўдарыў сябе нажом у жывот, як гэта было ў 1930-м (тады гэтая спроба самагубства не без падставаў кваліфікавалася сакратаром ЦК КПБ Геем як «пратэст супраць нашай палітычнай барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам»), а... падтрымаў партыю ў гэтай барацьбе.

**Уяўляю, як гэта было.**

**Як на галгофу ўзыйшоў Купала на казальніцу пленума аргкамітэту Саюза пісьменьнікаў СССР у Маскве і гаварыў пра значэньне пастановы ЦК «нашай» партыі «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый». Далей былі рэчы больш складаныя, але праз іх Купала праскочыў адносна лёгка — ён сказаў пра «актывізацыю клясавага ворага, у тым ліку і буржуазных нацыяналістаў». І вось самае цяжкае. Купала бездапаможна абвёў вачыма прысутных і, заўважыўшы строгія твары сваіх «інструктараў», схамянуўся, вышэй падняў галаву і вымавіў: «Беларускія нацыяналісты ў васобе Сідарэнкі, часткова Баранавых, паспрабавалі ў літаратуры ўзяць рэванш, аганьбіць барацьбу партыі супроць нацыянал-дэмакратызму. Я катэгарычна адмятаю іх спробы спэкуляваць маім імем». Ніхто ў зале ня выгукнуў «Сорам Купалу!» ці «Ганьба!», і паэт дадаў яшчэ — пра «правакатарскія вылазкі Сідарэнкі і прысных яму». Цяжка быць савецкім пісьменьнікам!.. Купала на сэкунду змружыў вочы — ох, і хвацка гэты Сідарэнка адвудзіў ягонага злога духа — Бэндэ! Сідарэнка пісаў: «творчасьць Янкі Купалы наогул зараз добра вядомая больш шырокім чытацкім масам, чымся некаторым нізкім на вочы «дасьледчыкам» гэтай творчасьці, што маюць нахіл лічыць паэта прадстаўніком бур куазнакулацкай паэзіі»; «нашы сапраўдныя пралетарскія паэты заўсёды зьвернуцца да Янкі Купалы, як да найвыдатнейшага мастака слова, майстра-віртуоза беларускага вершу, волата беларускай народнай песьні»... Але зноў сьпераду каменныя «інструктарскія» твары, поўны рот пяску, ды далей — лягчэй, далей знаёмае: «я адкінуў усё памылковае, што было ў маім мінулым». Скончыў...**

**Праз тыдзень усё тое давялося паўтарыць у Менску. Улады былі задаволеныя: ягоны выступ у газэтах друкаваўся пад загалоўкам «Свой лёс я назаўсёды зьвязаў зь лёсам пралетарскай рэвалюцыі».**

**У савецкі час і асабліва пасьля няўдалай спробы самагубства Купала ня раз мусіў крывіць душою, ісьці на ўступкі. Рахунак ім падвёў у 1934 годзе сакратар ЦК КПБ Гікала. Выступаючы перад беларускімі літаратарамі неўзабаве пасьля I зьезда савецкіх пісьменьнікаў, ён сказаў: «Сёньня Янка Купала — гэта чалавек ня той, які быў некалькі гадоў таму назад... Гэта работа партыі ў цэлым і ваша — камуністаў-пісьменьнікаў...»**

**На жаль, сакратар ЦК КПБ ня хлусіў. Папраўдзе, вялікая адлегласьць паміж Купалам дарэвалюцыйным, Купалам першых гадоў савецкай улады й Купалам — паэтам, які «ад сэрца» пяяў «песьні будаўніцтву».**

**Што да шчырасьці ў творах іншых беларускіх пісьменьнікаў, то вось што, напрыклад, пісаў у сваім дзёньніку Кузьма Чорны: «Думаю аб той горкай праўдзе, што ніколі ня меў магчымасьці пісаць тое, што самае важнае ў беларускай літаратуры і дзе б я сапраўды павярнуў бы горы». Ці ж выпадае пасьля гэтага горкага прызнаньня сумлявацца, што, бывала, Чорны пісаў так, «нібы яго пяром вадзіла нейкая чужая рука»?**

**Выпіску з чорнаўскага дзёньніка я ўзяў з... артыкула Р.Шкрабы. Тамсама можна прачытаць, як цэнзары нявечылі вершы Купалы, падручнікі Лёсіка, як высокапастаўлены работнік ОГПУ Апанскі яшчэ ў 1924 годзе трымаў Коласа, Бядулю, Лёсіка за «рэакцыйных пісьменьнікаў». «Хто толькі ні кіраваў беларускай літаратурай, хто толькі ні пакінуў на ёй сьлядоў сваіх ботаў», — эмацыянальна выгуквае літаратуразнавец... Але ж калі даходзіць да канкрэтных вынікаў гэтага кіраваньня ў творчасьці Купалы, Чорнага, Куляшова, дык ён гэтых сьлядоў ня бачыць. Ці ж ня дзіва?**

**Праўды, як Вы ведаеце, Рыгор Васілевіч, замнога не бывае. Таму гаворачы — трэба дагаворваць да канца.**

---

усё больш і больш апаноўвае сваю ахвяру й вядзе яе да немінучае гібелі. Магчыма нават, што жыхар старога дому зь цягам часу пачынае адчуваць нешта блізкае да пачуцьця асалоды ад свае татальнае немачы й бязвыйснасьці свайго становішча. Адчуваньне гэтае досыць складанае і патрабуе адмысловага абзацу ў апавяданьні, бо яно хаваецца ў самай глыбіні недасканалае чалавечае прыроды.

Урэшце рэшт, апавяданьне пра зачараваны дом — гэта ўсяго толькі матэрыялізацыя маёй навязьлівай ідэі пра непазьбежнае вяртаньне чалавека да аднаго таго самага зыходнага пункту, у якім рэальнасьць і сама душа чалавека страчваюць сэнс і ператвараюцца ў нейкі невыносны канглямэрат абсурду, выпадковасьці й злому. Вяртаючыся да зыходнага пункту ўсіх сваіх духоўных пошукаў — своеасаблівага *Ab Jove principium** — чалавек пачынае разумець, што сьвет па-за сьценамі старога дому» — плоскасьць без глыбіні, складзеная зь незьлічонай колькасьць разоў паўторанага аднаго таго самага «старога дому» (штосьці накшталт «дурной



*Здымак Алеся Крыштаповіча.*

бясконцасьці», калі карыстацца матэматычнай тэрміналёгіяй). І яму застаецца толькі зьмірыцца, што «стары дом» — гэта адзіна сапраўдны ягоны дом, зь якога ён не выбавіцца ніколі. Зрэшты, апошнім часам мне здаецца, што сама паўтаральнасьць адзначанага мною тупіковага стану — гэта ці не падказка (?) на тое, што шукаць запаветнае мейсца, дзе нам захочацца назаўсёды застацца, дзе мы ня будзем нудзіцца самі сабою, дзе тоіцца ўсё істотнае для нас, незалежнае ад плоскасьці быцьця, — трэба па-за адмаўленьнем «старога дому», апошняй повязі, што лучыць нас са сьветам. Можа быць, менавіта па-за гэтым адмаўленьнем хаваецца новы жыцьцядайны сьвет, дзе ўсё раздробленае й разарванае сыходзіцца ў вадно й набывае сапраўдны сэнс. Магчыма, аднак, што й гэтае маё меркаваньне — папросту чарговая ілюзія, спакуса, за якой хаваецца ўсё тая самая роспачная пустэча быцьця.

«Стары дом», тым ня менш, быў і застаецца заўсёднаю рэальнасьцю майго небагатага й сумнага йснаваньня.

Алег Мінкін

* *самага пачатку.*

Зь Беларусі й Літвы

## БЯЗЬМЕНАВА
*Духоўскага павету Смаленскай губэрні*

У нашай губэрні жывуць беларусы (947 тысяч) і рускія (578 тысяч). Беларусы жывуць у заходніх паветах, а рускія на ўсходзе, у бок Маскоўскай губэрні. Але беларусы там, дзе яны мяжуюць з рускімі, перамяшаліся зь імі, гаворыць, бадай, зусім па-руску, завялі супольныя з рускімі звычаі... Наша сяло Бязьменава ўжо рускае; у нас 35 хат... Дровы купляем па 60-70 капеек воз у латышоў, што тут купілі па дзесяцін 40 і добра жывуць, ды яшчэ ў магілеўцаў (беларусаў), каторых сюды прыехала 22 сям'і й тут купілі маёнтак праз банк; палова іх добра жывець... Гандаль у нас ня так добра нарыхтаваны, як у Беларусі. На торг мужыкі мала езьдзяць, бо далёка: да Духоўшчыны (наш павет) 35 вёрст, да Дарагабужа 45 вёрст.

Рускі Мужык. *1909, 1.*

## ВАЛОЖЫН
*Ашмянскага павету Віленскай губэрні*

Гэта звычайнае беларускае мястэчка, якіх многа ёсьць у нашым краю; дзьве часьці жыдоў, а трэцьця часьць будзе хрысьціянаў, больш праваслаўных; каліcь было больш каталікоў, а рэшта ўніяты, але пазьней касьцёл забралі на царкву, і зрабілася больш праваслаўных. У нас жыве земскі, сьледчы; ёсьць воласьць, аптэка, 2 манапольки; ёсьць 4 вучылішчы, у тым валаснoе й рамеснае, дзе вучаць плясьці кошыкі. Гарэлку ў нас смаляць усё больш і больш. Нядаўна адзін мужык быў у гасьцях у свайго брата, парабка ў фальварку Шапавалах, ды так нарэзаўся сьпірту, што й дамоў не даехаў: дарогай памёр.

Стары Ўлас. *1909, 16.*

## ВЯЛІКІЯ БЯСЯДЫ
*Барысаўскага павету Менскай губэрні*

... Грамадзянскага жыцьця саўсім у нас няма. Народ цёмны. Ніхто нічым не цікавіцца. Ад Думы, на якую многа надзеяў ускладалі, цяпер мала чаго чакаюць... Многа каля нас дробнай шляхты. Усе яны каталікі; гавораць дома па-беларуску, як паявіцца чужы чалавек, то прабуюць гаварыць папольску, але гэта ня вельмі добра выходзіць... Шляхта гэта народ працавіты. Іншыя жывуць на сваёй зямлі, а іншыя арандуюць. Блізка ўсе ўмеюць чытаць і пісаць па-польску й па-расейску, але да большай навукі ня горнуцца. Ад газэты й кніжкі як ад чартапалоху старонюцца. І вось, замест быць для мужыкоў добрым прыкладам, яны й гаспадараць ня лепш за мужыкоў, хоць часам маюць шмат зямлі, і аб чарцы таксама не забываюць. Мужыкі зь імі жывуць згодна й дружна. Адна толькі бяда, што шляхта, мяшчане й мужыкі, маючы адзін валасны суд, не выбіраюць разам судзьдзяў, а маюць гэтае права адныя толькі мужыкі. Праз гэта бывае, што валасны суд воўкам пазірае на засьцянковага шляхціца беларуса. Каб жа завялі адзін выбарны суд для ўсіх на роўных правох, дык згінула б гэтая прычына непрыязьні.

Сусед *1909, 12.*

## ЕЎЕ*
*Троцкага павету Віленскай губэрні*

Троцкі павет знаходзіцца на самай мяжы, што дзеліць літвіноў ад беларусаў. У Віленскі бок дык каля самога мястэчка жывуць беларусы, а ў Ковенскі — дык пайшлі ўжо вялікай грамадой літвіны. Тутака беларусы — народ бедны ды такі, што цураецца мовы сваёй і хоча ўсё па-панску гаманіць, нягледзячы на тое, што паміж сабой гутараць яны толькі па-беларуску. Літвіны, бадай, нічым ня розьняцца ад нас: грошай больш ня маюць, гаспадарка ў іх ня лепшая й г.д., хіба толькі тым, што гутараць яны па-свойму — па літоўску. Але беларусы зь літвінамі жывуць згодна, па-суседзку, няма ніякіх сварак паміж гэнымі народамі... Еўе з давен даўна было знаным горадам. Тутака ўжо ў 1611 годзе нават была заложана беларуская друкарня, у якой друкаваліся кнігі ў нашай роднай мове. Цяпер яшчэ відаць гэнае мейсца, дзе стаяў кляштар, у якім была друкарня; нават перад некалькі гадамі яшчэ знаходзілі друкарскія літары. Цяпер нічым Еўе ня можа пахваліцца. Хіба тым, што стаіць на вельмі пекным мейсцы, над вялізарным возерам (возера належыць да пана), ды што мае 16 піўных, манапольку й рэстаран. Падумайце толькі, няма тысячы жыхароў у мястэчку, а гэтулькі распусты!.. На хвалу літвінам трэба сказаць, што яны п'юць куды меней за нашых беларусаў, якія калі маюць хоць трохі грошы, дык зараз цягнуць да піўнай, як тыя журавы на зімоўе. Затое й ніякага супольнага грамадзянскага жыцьця няма. Усё сьпіць. Папраўдзе, ёсьць тутака пазычкова-зьберагальная каса, але да яе, можна сказаць, належаць толькі жыды. Вядома, народ з жыдоў прыткі, дык дзеля гэнага адразу ўцямілі, якую карысьць яны могуць мець з грамадзянскага жыцьця... «Саюз ісьціна рускіх людзей» калісь і ў нас думалі зрабіць, запісвалі туды, але на шчасьце саюз гэны як бы заснуў. З запісаных усе навокал сьмяяліся. Адна зараза на людзей як бы прайшла, але цяпер знайшлася другая — на сьвіней. Сьвіньні пачалі ў нас вельмі хварэць на чырвоную хваробу (рожу) ды здыхаць. У маёнтку Дэмбіне пала адразу 8 штук... Аб Нашай Ніве тутака зусім мала ведаюць. Але калі знайдуць які нумар, дык ахвотна чытаюць. Яна цяпер прадаецца ў краме Эймантa ды ў аптэцы п. Міланча. Міланч гэта літвін, шчыра спагадае нашай справе. Ён першы ў мястэчку павесіў беларускую шыльду.

Паўлюк Гудок. *1909, 28-29.*

* Па-летувіску Vievis.

## РАКАЎ
*Менскага павету й губэрні*

Наша мястэчка вядомае тым, што тут ад 1843 году вырабляюць веялкі, сячкарні, малатарні, займаюцца тут і ганчарствам. Тут заведзена нядаўна земская школа рамяства. У другіх справах Ракаў жыве, як і ўсе нашы беларускія мястэчкі. Жыцьця грамадзкага няма, і хваліцца чым няма. Ёсьць тут хрысьціянская крама, добра таргуе. Адна баба купіла тут селядцоў і, едучы дамоў, абліла рукі сялёдачнай юшкай, пачала аблізваць на марозе, а як была яшчэ яна выпіўшы, дык памарозіла рукі. Цяпер ляжыць у бальніцы.

Янук Міхалка. *1909, 8.*

Што здарылася?

## Двума стрэламі з рэвальвэра

*Менск.* 1 сакавіка каля самай губэрскай турмы ў палудзень нехта двума стрэламі з рэвальвэра забіў начальніка турмы П.П.Славінскага. Арыштавалі нейкага Аляксандра Оеца, і той прызнаўся, што ён забіў начальніка. Оец сядзеў у турме за крымінальныя справы, і нядаўна яго выпусьцілі на свабоду.

*1909, 11.*

## Для чаго ў рэстаране нож?

*Вялейка* (Віленскай губэрні). 5 красавіка ў рэстаране мяшчане пілі, дый, відаць, перапіліся празь меру, пачалі сварыцца й некалькі разоў аднаму ўсадзілі ў бок нож. Стараюцца вялейскія мяшчане!

K-tia. *1909, 16.*

## Забіўся на мейсцы

*Трокі* (Віленскай губэрні). Чыгуначны служка Фёдараў узьлез на высокую замковую сьцяну, але там пасьлізнуўся, зваліўся ўніз і забіўся на мейсцы.

*1909, 26.*

## На Прыпяці

*Пінск* (Менскай губэрні). На рацэ Прыпяці паміж Пінскам і Туравам таварны параход налящеў на пасажырскі. Людзей выратавалі, але іхнія манаткі пайшлі на дно.

*1909, 26.*

## Заелі сабакі

*З Навагрудзкага павету.* Нядаўна каля маёнтку Бардзяч графіні О'Рурк знайшлі нежывога чалавека, каторага аб'елі сабакі, а як пасьля дазналіся, дык нябожчык гэты быў зь вёскі Клюковічы; ён яшчэ за тры дні перад гэтым выйшаў за інтарэсамі да другой вёскі. Цікавая рэч, што было прычынаю яго сьмерці: ці яго хто забіў, а труп ужо сабакі аб'елі, ці можа яго жывога аб'елі сабакі з таго двара, бо, як людзі кажуць, то яны быццам чулі, як нехта крычаў ратунку, а тымчасам сабакі вельмі ўядаліся, — але ніхто не прыбег на помач... Нябожчык — яшчэ малады чалавек; пакінуў ён жонку й чацьвёра малых дзяцей. Хоць сабак у гэтым маёнтку толькі пяць, але яны затое вялікія, прымерам кажучы, як гадавыя жарабяты, і вельмі многа нарабляюць шкоды, нападаюць на людзей, душаць сьвіней, авечак і г.д., бо ніколі іх не прывязваюць.

«Сусед». *1909, 10.*

## «Павесіць!»

*Вільня.* Оеца, які забіў у Менску начальніка турмы Славінскага, ваенны суд прыгаварыў павесіць.

*1909, 12.*

## Патоп

*Беласток.* Выпаў такі дождж, што пажарнікі мусілі цэлую ноч ратаваць пазаліваных у дамох людзей.

*1909, 26.*

## «Мама, мамка!»

*У г.Васількове* Кіеўскай губэрні нейкая кабеціна дала жабраку, які сядзеў на рынку з калекайдзяўчынкай, ялмужную й прасіла маліцца за душу яе дачушкі Насткі, што з год ужо як невядома дзе дзелася. Аж тут калечка як крыкне: «мама, ці гэта ты!?» Матка з радасьці й жалю абамлела... Гэты жабрак скраў дзяўчынку і, каб болей зарабляць, сумысьля акалечыў яе: павыкручваў ножкі, пасмаліў вочы... Адабралі таксама пакалечанага хлопчыка ў другога жабрака. Абодвух жабракоў арыштавалі.

П. *1909, 24.*

## За два рублі

*Дзьвінск* (Вітэбскай губэрні). Член Саюза рускага народа Кузьняцоў забіў і абабраў нейкага Бурлана, які меў усяго два рублі.

*1909, 22.*

## Сьмерць сталяра

*Маліноўшчына* (Ашмянскага павету Віленскай губэрні). У нас праз гарэлку здарыўся нядаўна адзін смутны выпадак. Тутэйшы сталяр Янка Вашэта, хлебануўшы трохі залішне гары, захацеў яшчэ лепей падлімоніцца: узяў бутэльку і, забраўшыся ў бровар, палез у чоп набіраць бражку, дзе і зваліўся з галавой. Па нейкім часе знайшлі яго нежывога. Відаць, задушыўся бражным газам, бо ўтапіцца ня мог дзеля таго, што ў чопе бражкі было толькі да пояса.

Цыпрук. *1909, 12.*

## Ну, аж занадта напіліся...

*Будапэшт.* Пішуць, што на хаўтурах у ваднаго багатага мужыка ў м.Бэскэрэку ўсе госьці надта напіліся. З-паміж іх 13 чалавек праз колькі гадзін памерлі, а 20 астатніх цяжка захварэлі.

*1909, 10.*

## Бомба

*Навачаркаск.* У кватэры італьянца Массора разарвалася бомба, павыбівала шыбы й зьбурыла сьцяну.

*1909, 25.*

## Сатысфакцыі

* * *

*м. Зінкова* (Падольскай губэрні). Адзін селянін скраў у суседа сноп жыта; яго злавілі й судзілі сваім судом. Прыгаварылі заплаціць 15 рублёў штрафу ў сельскае вобчаства й прастаяць на каленях перад касьцёлам 6 гадзін з крадзеным снапом.

*1909, 33*

* * *

*Уладзікаўказ.* За ўбійства старшыны суд прыгаварыў павесіць селяніна Абракчамалієва. Яму цяпер 124 гады.

*1909, 33.*

* * *

*Крамянчуг.* 10-гадовыя дзеці, гуляючы ў ваенны суд, прыгаварылі хлопчыка Ліпчына на сьмерць і... павесілі. Пакуль падбеглі бараніць, дзіцянё было ўжо чуць жывое.

*1909, 35-36.*

Аб усім патроху

## Спэцыялізацыя

Менская губэрня мае найбольш бровараў проці другіх губэрняў у Расеі, але сьпірту найбольш вырабляе г.Рыга (Ліфляндзкая губэрня). У Меншчыне ёсьць 9 казённых вінных складоў, 15 сьпіртаачышчальных заводаў і 207 бровараў.

*1909, 8.*

## Беспартыйных найбольш

У газэце «Społeczeństwo» знаходзім сьпіс усіх высланых на пасяленьне. На пасяленьні жыве 15 з паловай тысяч чалавек. Паводле партый яны дзеляцца гэтак: сацыял-дэмакратаў — 3 тысячы 500 чалавек, сацыял-рэвалюцыянэраў — 3 тысячы, Польскай партыі сацыялістычнай — 466, бундаўцаў (жыдоўскіх сацыялістаў) — 460, анархістаў — 700 і беспартыйных — 5 тысяч 998 чалавек.

*1909, 16.*

## Рублі Ротшыльда

Венскі багач Ротшыльд вядзе свае рахункі, з каторых відаць, што ён адзін мае багацьця на 4 мільярды 446 мільёнаў 800 тысяч рублёў (мільярд гэта тысяча мільёнаў). Калі б ён аддаў гэтыя грошы ў банк на 4%, то меў бы ў год адных працэнтаў 167 мільёнаў 872 тысячы рублёў. У Вамэрыцы ёсьць яшчэ багацейшыя за яго, напрыклад, Вандэрбілт.

*1909, 17.*

## Спэцыялізацыя-2

*Ашмяна* (Віленскай губэрні). Турмаў маем аж чатыры: пры паліцыі (прадварылка), арэстны дом, сьледчая турма і йсправіцельны арэстны дом; а вучылішчаў затое два: гарадзкое й царкоўна-прыхадзкое. І хто хоча пазнаць ашмянскае жыцьцё, можа судзіць па яго будынках. Народ цёмны — і праз сваю цямноту напаўняе астрогі.

*Знаёмы. 1909, 13-14.*

## «Гуманнасьць» у царскіх турмах

*Францыя.* У Парыжы адвакацкім таварыствам прыслалі з Англіі лісты, у каторых англічане намаўляюць французаў прылучыцца да міжнароднага пратэсту проці зьдзекаваньня над арыштантамі ў расейскіх турмах.

*1909, 26.*

## Пра п'яніц, якіх падбіраюць на вуліцах

Маскоўская гарадзкая дума разглядала цікавую справу аб п'яніцах, якіх падбіраюць на вуліцах. Кожны п'яніца каштаваў гораду 15 капеек у дзень; цяпер павялічылі гэты выдатак яшчэ на 8 кап. на кожнага. Шмат п'яніц прыводзіць паліцыя пабітых, і ім трэба даваць дохтарскую помач, дык 15 кап. не дастае на тое. Зусім п'яных — бяз памяці — у Маскве за апошнія 10 гадоў паліцыя падабрала 23 тысячы 24 душы.

*1909, 17.*

## Абрусеньне Фінляндыі

Княства фінляндзкае больш за сто гадоў таму было прылучана да Расеі з забесьпячэньнем яму ўсіх вольнасьцяў, якімі яно карысталася да таго, а пасьля гэтыя вольнасьці былі яшчэ памнованы першымі расейскімі імпэратарамі. І фінляндцы жылі сабе пры Расеі, як у Бога запазухай, пакуль не пайшлі ў гэтай самай Расеі розныя «ісьцінныя» рускія людзі, якім захацелася фінляндцаў абрусіць і адабраць ім старыя іхнія правы й прывілеі. Пачалі пакрысе цісьнуць фінляндцаў, а апошнімі часамі Рада міністраў пастанавіла завясьці расейскую мову ў Фінляндыі. Спачатку расейская мова будзе заведзена ў канцэлярыях і ўрадавых мейсцах. Пасьля заведзена будзе ў школах. Урад будзе выдаваць субсідыі чыноўнікам, каторыя паедуць у Фінляндыю шырыць расейскую мову.

*9 жн. 1913.*

## Плоднасьць

*У вёсцы Агалымцы* (Віленскай губэрні Дзісенскага павету Пастаўскай воласьці) жонка аднаго гаспадара радзіла за раз тры дзяўчынкі й хлопчыка. Дзеці пакуль што жывы й здаровы.

*1909, 26.*

## Пешшу — у Сыбір

*Пінск.* Землеўпарадчая камісія наладжвае партыі хадакоў для перасяленьня ў Табольскую губ., дзе мужыкам Пінскага павету адзначаны вучасткі зямлі на 755 душ. Ахвотнікаў знайшлося 2 тысячы 940 чалавек. З гэтага відаць, якая бяда ў нашым краю, калі гэтулькі людзей пакідае родную старонку, шукаючы хлеба ў нязнаных краях.

*13-14.*

## Цэны

Цікавыя цяпер цэны ў Вільні: пуд саломы — 65 к., сена — 90 к.; асьміна бульбы — 1 р. 60 к.; кварта сьмятаны — 40 к., фунт мяса — 18 к. От, і жыві!

*1909, 21.*

# Пра што аднойчы Іван Луцкевіч сказаў Зьмітру Жылуновічу

Ад Рэдакцыі

Ад пачатку свайго йснаваньня *Наша Ніва* — гэта штотыднёвік. Зараз мы імкнемся выходзіць штомесяц, захоўваючы месяцовы аб'ём малога штотыднёвіка. Каб ужо сёньня выходзіць штотыдзень, нам бракуе сродкаў, бо для тыднёвіка патрабуецца больш работнікаў, транспарту й іншага. Найперш, вядома, грошай.

Ведаеце, пра што аднойчы Іван Луцкевіч сказаў Зьмітру Жылуновічу (Цішку Гартнаму)? «Трэба кідацца ва ўсе бакі, каб дастаць капейку-другую на нашу справу». А Цішка Гартны, пачуўшы гэта, разважаў так: «Я й ня думаў да таго, што *Наша Ніва* такая бедная, каб трэба было з нумару ў нумар шукаць на яе выданьне грошай...»

Але Цішка Гартны нічога не сказаў пра тое, што на грошы НН тымчасам зьбіраліся каштоўныя старадаўнія экспанаты Віленскага беларускага музэю...

Як пэрыядычнасьць, так і зьмест НН цяпер больш нагадвае часопісны, чым газэтны — менш актуаліяў і больш рэчаў «вечных». Тут таксама ёсьць свая праблема. Найлепшы зь вядомых нам макетаў старой НН абапіраўся на празаічны твор, на якім, як на падмурку, стаяў увесь будынак нумару — інфармацыі, гутаркі, асьвета ды іншае. Зараз на Беларусі й па-беларуску такі твор, які можа вытрымаць наш шаснаццаціпалосны «будынак», знайсьці амаль немагчыма. Амаль ня пішуцца такія апавяданьні, эсэ й падобнае.

Тое самае з палітыкай. Першы нумар НН адзін шаноўны чытач папракаў за «апалітычнасьць». Маўляў, няма паліталёгіі — няма чаго чытаць. Яно, магчыма, і так. Але ж кожная паліталёгія грунтуецца на пэўным нацыянальным сьветапоглядзе, і тое, што сёньня часам прыймаюць за беларускую паліталёгію — усяго толькі пераклад маскоўскіх шаблёнаў. А каб зьявілася сапраўды беларуская паліталёгія, трэба напрацаваць для яе той нацыянальны сьветапоглядны грунт, той жа беларускі паліталягічны апарат, што мы і спрабуем рабіць.

Наш спадзеў на пошту. Мы ўжо атрымалі некалькі дзесяткаў допісаў. Вялікі дзякуй! Мабыць, мінаецца той час, калі газэта была й райкамам, і сабесам, і пракуратурай. Яшчэ іншы раз адчуваецца, што людзі прызвычаіліся пісаць у газэту так, як трэба, а ня тое, што хочацца. Пошту пра тое, што хочацца, у вялікай колькасьці мела старая НН. Зрэшты, і сёньня мы не прысьпешваем час, бо ўсё цяпер толькі адыходзіць ад «единообразия», робіцца адметным ды нестандартным...

Пішыце. Хіба не цікава ўсім, што цяпер робіцца дзесьці ў Наваградку ці ў Краснапольлі, ці дзе ў Мазыры альбо на Беласточчыне, у Дзьвінску ці на Смаленшчыне, альбо ў далёкім Кліўленьдзе, у Вашай сям'і ды ў Вас на душы. Урэшце, мы ўсе жывем на адной зямлі. Толькі вось недзе лепей жывем, а недзе зусім блага. Чаму?

Зь Беларусі й Літвы

## Лепей позна, чым ніколі

У чэрвені ў Менску зарэгістраваны Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». «Лепей позна, чым ніколі, — сказаў нам па тэлефоне сакратар Фронту Вінцук Вячорка. — З пункту гледжаньня вялікай палітыкі гэтая рэгістрацыя нічога не мяняе, а толькі канстатуе вядомае: БНФ — рэальная палітычная сіла. А вось з пункту гледжаньня палітыкі практычнай, асабліва для правінцыі, дзе яшчэ моцны партапарат, для тамтэйшых радаў Фронту можа быць пэўная палёгка ў працы». Зарэгістраваная таксама Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі.

## Выбары

Прэзыдэнтам Расеі 12 чэрвеня абраны Барыс Ельцын. Цікава, што на Беларусі засталося шмат засмучаных тым, што ня здолелі ўзяць удзел у галасаваньні, бо выбары прэзыдэнта РСФСР тут не праводзіліся. Асабліва крыўдаваў у вадной менскай газэтцы нейкі поп: «Волею «суверенных» политиков, мы, русские, проживающие в других республиках, лишены возможности участвовать в голосовании». Шкода людзей, якія жывучы на Беларусі, усё яшчэ «проживают в других республиках».

## AIDS

На Беларусі сёньня 14 хворых на AIDS. У Латвіі 15, на Украіне 72, у Расеі 457. Усяго ў СССР — 600, а ў Кіргізіі ды Азэрбайджане — ніводнага.

## «Цягнік» — усё яшчэ «поезд»

У газэце Саюзу палякаў на Беларусі *Głos znad Niemna*, №5 мова ў дачыненьні да Беларусі й беларусаў крыху зьмякчэла. Нават чытаем, што ня ўсе каталікі ў нас палякі! Зьмешчаны й польска-беларускі размоўнік: гутаркі на чыгунцы. На жаль, аўтар размоўніка занадта давяраецца крапіўоўскаму расейска-беларускаму слоўніку. Нябожчык чамусьці зацята змагаўся зь некаторымі беларускімі словамі, асабліва зь «цягніком», і меў выні́кі. Вось і ў размоўніку «pociąg pośpieszny» перакладаецца як «скоры поезд»... А ўвогуле пасьля варшаўскага польска-беларускага слоўнічка 60-х гадоў гэта ці ня першая спроба аднавіць супольнае жыцьцё дзьвюх моваў.

Крэсавяк.

## Беларускія баптысты сьпяваюць па-расейску

Ліду, Ваўкавыск ды Горадню наведаў амэрыканскі сьвятар-баптыст Чарлз Картар. У Горадні на сустрэчы зь ім народу было процьма. Прыкра тое, што амэрыканец быў перакананы, што СССР і Расея — адно й тое. Самім жа гаспадарам, мусіць, праз сьціпласьць не было як давесьці Картару, што тут усё ж Беларусь. Не было як ці не было каму?.. А менскі эвангельскі хор увесь час выконваў сьпевы па-расейску і толькі аднойчы — як падарунак для гарадзенцаў — па-польску...

Г.Саветыкус.

## «Івянка» чакае запрашэньня...

Пад гэткай назвай у *Kuriery Wileńskim* надрукаваны такі допіс з Іўя: «Няшмат людзей польскага паходжаньня ў нашым горадзе памятаюць сваю родную мову. Хіба толькі малітва да Бога абуджае ў іх надзею на лепшае... Яшчэ адным праменьчыкам стала наша суполка польскай песьні «Івянка». Мы ўзялі на сябе місію пашырэньня на Беларусі нашага роднага звычаю, веры і польскай мовы... Хацелі б мы таксама наведаць Вільню. Калі Саюз палякаў у Летуве плянуе неўзабаве праводзіць якуюсь імпрэзу, «Івянка» з ахвотай упрыгожыць яе сваім выступам... Ад імя суполкі «Івянка» Марыя Бакуновіч».

## ... а наваградзкіх ужо запрасілі

У Кракаве прайшлі Дні Вільні й Наваградзкае зямлі. Паміж іншых тут гасьцявала дзіцячая суполка з Наваградку. Старшыня Наваградзкага аддзелу Саюзу палякаў на Беларусі Зоф'я Барадын і сяброўка гэтага аддзелу Марыя Матыс распавялі пра Міцкевічаўскія мясьціны на Беларусі. «Гэты прыезд у Кракаў надоўга застанецца ў памяці й сэрцах нашых дзяцей, — сказалі кабеты карэспандэнту *Kuriera Wileńskiego* — Дзеці, як дзеці, на шчасьце, ня знаюцца з палітыкай. Кракаў для іх — толькі пекная байка»...

## Марцін Лютар і Франьцішак Скарына каля гарадзенскага бровара

Франьцішак Скарына й Марцін Лютар п'юць піва. Як вядома, яны спаткаліся ў Вітэнбэргу. Але гэтым разам піва не баварскае, а гарадзенскае. Менская тэлевізія здымае апошнія сцэны спэктаклю «Прарок для Айчыны» паводле А.Петрашкевіча. На заходняй Украіне фільмавалі каралеўскія палацы, а дамоў прыехалі здымаць турму. Надаліся для гэтага лёхі Базыліянскага кляштару ў Горадні. Як прызнаўся рэжысэр, на здымкі запрошаныя артысты коласаўскага тэатру зь Віцебску, бо менскія купалаўцы горш валодаюць беларускай мовай. Так ці йнакш, а панавала на пляцоўцы мова "вялікага брата". З гэтае прычыны Скарына выглядаў першадрукаром каго заўгодна, толькі не сваіх удзячных нашчадкаў. І яшчэ. Напэўна, у іншых умовах вытворца піва меў бы за шчасьце такую рэкляму свае прадукцыі. Балазе, бровар пад гарой, за паўкэмэ адсюль... Але ў нашых варунках — толькі сьвісьні, што піва наварылі. І ўся рэкляма.

С.Астраўцоў, здымкі У.Выдэрка.



# Віленскія беларусы выходзяць на палітычную сцэну

## Польскі зьезд у Масьцішках

У канцы траўня ў Віленскім раёне, на сядзібе былога калгасу «Перамога» ў Масьцішках прайшоў трэйці этап зьезду дэпутатаў усіх узроўняў ад Віленшчыны. Зьезд выказаўся за ператварэньне Віленшчыны ў польскі адміністрацыйна-тэрытарыяльны край з польскім соймам, польскай мовай, польскім грамадзянствам, сьцягам, гімнам і г.д. Інтарэсы беларускага аўтахтоннага насельніцтва краю былі цалкам праігнараваныя. Хіба што адзін з прамоўцаў заявіў: «Супраць нас, палякаў, нарастае беларуская сіла»... І яшчэ нехта Тамашэўскі, як паведаміла ў справаздачы газэта *Kurier Wileński*, «спрабаваў унесьці блытаніну ды скіраваць увагу прысутных на іншыя торы. Між іншым ён паведаміў, што на Віленшчыне ўжо сёньня патрэбны беларускі ўнівэрсытэт...».

## Беларуская Рада

Тым часам у Вільні была створана Каардынацыйная Рада беларускіх згуртаваньняў ды арганізацый у Летуве. Апроч прадстаўнікоў Таварыства беларускай культуры й клюбу «Сябрына», у Раду ўвайшлі прадстаўнікі рэдакцыі беларускіх тэле- й радыёперадач, друку, аргкамітэту згуртаваньня беларускіх настаўнікаў, асяродку Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў у Летуве ды іншыя. Па выніках польскага зьезду Рада прыняла заяву, у якой сказана: *«Беларусы ня супраць асобнага статусу Віленскага краю ў складзе вольнай Летувы. Але як для летувіса гэты край летувіскі, для паляка — польскі, таксама й для беларуса — Віленскі край беларускі. Беларусы за раўнапраўнасьць нацыяў, а не за тое, каб адну нацыянальную большасьць зьмяніла іншая, каб адна нацыянальная супольнасьць надзялялася большымі правамі... Калі маюць быць мовы, прыраўнаныя да дзяржаўнай, дык спаміж іх мусіць быць і беларуская. Сойм мусіць быць кааліцыйным Соймам нацыянальнасьцяў — летувісаў, палякаў, беларусаў... А не соймам палякаў у Летуве. Мы заклікаем усе народы Летувы да ўзаемнай пашаны, згоды й супрацоўніцтва!»* Неўзабаве гэтая заява была апублікаваная ў цэнтральных газэтах Летувы. Зьявіўся таксама тэлефон у памяшканьні Беларускага прадстаўніцтва ў Вільні. Цяпер тут кожны працоўны дзень з 18.00 да 20.00 гадзіны дзяжурыць прадстаўнік Каардынацыйнае Рады. Занатуйце нумар «беларускага тэлефону» ў Вільні:

**26-03-17**

## Што было далей?

У *Kuriery Wileńskim* зьявілася «меркаваньне» пра заяву беларускае Рады. Аўтар «меркаваньня» выказаў думку, што ў Масьцішках зьбіраліся народныя дэпутаты, а хто ж лепей за іх ведае думку народу! І чаму там не было прадстаўнікоў ад беларусаў? Рацыя. Не было — на жаль. А вось чаму? — пытаньне рытарычнае й нетактоўнае пасьля столькіх гадоў вынішчэньня ўсяго беларускага, савецкае русіфікацыі ды касьцельнае паланізацыі. Вось жа ў самой Польшчы гэта зразумелі хутчэй. І, як сказаў яшчэ адзін прамоўца ў Масьцішках, «я зразумеў, што там падтрымкі нашай аўтаноміі ня будзе»... Але найбольш цікавае ў апублікаваным «меркаваньні» ня столькі якраз меркаваньне аўтара, а лічбы: «Як мяне паінфармавалі ў Дэпартамэньце статыстыкі, у часе апошняга перапісу занатавана 11 асобаў, якія акрэсьлілі сваю нацыянальнасьць як «тутэйшыя», у тым ліку 7 роднай мовай прызнаюць летувіскую, а 4 — тутэйшую. Простую мову паводле перапісу прызнаюць роднай 105 палякаў, 25 летувісаў і 4 беларусы».

## Пагляд афіцыйнае Летувы

Яго ў інтэрвію агенцтву ELTA выказаў сакратар Дзяржаўнае камісіі па справах Усходняе Летувы Гінтарас Сангайла. З праекту статуту «польскага Віленскага краю» вынікае, што пляны намэнклятуры скіраваныя не на забесьпячэньне правоў нацыянальных меншасьцяў, а супраць адраджэньня летувіскае дзяржавы, што цалкам адпавядае плянам Крамля. Калі прыняць гэты праект польскае меншасьці — што тады маюць рабіць іншыя меншасьці? Калі ў Салечніках побач зь летувіскім вывешваюць польскі дзяржаўны сьцяг — гэта правакацыя. У справе сымболікі трэба працягваць традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Адносна расейскіх школаў краю, якія цяпер перарабляюцца на польскія, Сангайла сказаў, што гэта старая сілавая практыка. Зноў ня ўлічваюцца пажаданьні людзей, якія спрадвеку размаўлялі па-расейску ці на дыялектах беларускай мовы, вялікая іх частка ніколі нават ня ведала польскае мовы.

(брат)

# Абломкі

Алег Аблажэй

Запомнілася са школьных падручнікаў фізыкі — кожны магніт мае два палюсы. І нават калі яго разьбіць, хоць на самыя дробныя аскепкі, — усё адно кожны аскепак будзе магнітам і будзе мець два палюсы.

Домікі, якія нядаўна пабудавалі ў маёй вёсцы, нагадваюць абломкі вялікіх гарадзкіх дамоў. Як бы нехта дужы й вялікі разламаў тыя дамы на чатырохкватэрныя кубікі ды раскідаў каля старой вёскі. І кожны кубік захаваў свой плюс і свой мінус. Жывеш нібыта ў вёсцы, але маеш за сьцяной і ўверсе (або ўнізе) суседа. І чуеш, як ён сварыцца з жонкай.

Затое да ветру схадзіць можна, не выходзячы за парог. Па-навуковаму кажучы, «прадукты працэсу» накіроўваюцца ў рэчку па трубах. Час ад часу там нешта захрасае й з-пад люка пасярод вуліцы пачынае біць смуродны фантан — змывае грані паміж горадам і вёскай.

Раней вада ў вёсцы была крышталёва чыстая, і ў ёй вадзілася рэдкая рыба — фарэль. У нас яе называлі «стронгі», бо мы былі калісь пад Польшчай, а польская назва — pstrągi, пярэстыя.

Польскія часы не пакінулі нічога, апроч «польскай веры». І вёска мае два палюсы — дзеліцца на «рускіх» і «палякаў». Бог на Беларусі ня ў трох асобах, а ў дзьвюх — Гасподзь Бог і Пан Буг. Зрэшты, адраджаецца трэйцяя — уніяцкая. Але ў нас пра гэта ніхто ня чуў.

За домікамі знаходзяцца гаспадарчыя забудовы. Гэта ня гумны й не хлявы. Таму называюцца проста «сараі». «Сараі» цесныя й нязручныя, таму абрастаюць прыбудовамі — «сарайчанятамі».

Уся гэтая раскоша будавалася ня проста так. Меўся тут быць вялікі цэнтар — праўленьне калгаса, сельсавет і г.д. Збудавалі вялікі гмах з мноствам габінэтаў, партрэтаў і дываноў. А каб не баяцца імпэрыялістаў — унізе зрабілі прасторнае бомбасховішча.

Жыцьцё ў гэтай будыніне кіпела год, а можа, і ўсе два. Потым нехта недзе наверсе сказаў, і калгас аб'ядналі з другім. І начальства ўсё туды пераехала. У раскошных габінэтах гуляў вецер. Нядаўна іх сталі ламаць — хочуць зрабіць вялікі дзіцячы сад. Хутка даробяць. Застанецца знайсьці дзяцей.

Зрэшты, дзеці яшчэ сям-там бегаюць. Нават школа ёсьць васьмігадовая. Дзеці пры стрэчы ня гледзячы кажуць «драсьце!» Дарослыя вітаюцца больш паважна: «Дра-астуйцё вам!» А бабулька адна на мой упарты «дабрыдзень» нават усердавала не на жарты — «Эйш, панэ-э-э тут мне знайшліся! Як чалавек здароўкайся, як усе!»

У вёсцы з кожным годам памірае ўсё больш старых людзей, старых груш і старых хат. Хто ад старасьці, хто, магчыма, ад радыяцыі. Формула сучаснай вёскі — старасьць, Чарнобыль, заняпад.

А яшчэ ў ня так далёкія часы калгас лічыўся «перадавым». Нават назву меў адпаведную — «Гвардыя». Старшыня гадоў дваццаць быў той самы. Палымяны камуніст. Караў і мілаваў. За жмут калгаснай саломы ці лішнюю сотку каля сядзібы можна было атрымаць або па кішэні, або проста па мордзе.

Кар'ера яго скончылася нечакана — калгасны правадыр заеўся са сваім парторгам і той «стукнуў», што дом, які будаваў сабе старшыня — на крадзеныя грошы і з крадзеных матэрыялаў. Дом адабралі разам з пасадай.

Затое з часоў росквіту засталася крама. Вяскоўцы прыходзяць сюды абменьваць «драўляныя» рублі на валюту. А валюта ў вёсцы ня цьвёрдая, а вадкая. За бутэльку гарэлкі можна дастаць усё, што яшчэ ўвогуле можна дастаць. Любая бабулька ведае, што за бутэльку дзядзькі ёй і скосяць, і зааруць, і забарануюць. За прапанову разьлічыцца рублямі можна атрымаць параду імі падцерціся.

Я спрабаваў баранаваць бацькаву бульбу. Конь, звыклы да грымотных ноканьняў і сакавітых мацюкоў, мала зьвяртаў увагу на кволы голас інтэлігента ў першым калене і йшоў як яму хацелася.

А ўва мне змагаліся й балелі два палюсы: адзін — з усіх гэтых Рафаэляў-Бахаў-Борхесаў-літаратур-культур, і другі — з таго, што яшчэ жыве, зелянее, але ўжо асуджанае на сьмерць.

Наваградчына. 22.VI.91.

# Каляровыя казкі

Іманта Зіедоніса

## *Белая казка*

Учора выпаў першы сьнег. І зараз усё белае. Такое белае, што нічога нельга разабраць. Белая курка зьнесла белае яйка дый згубіла яго ў сьнезе. Белы певень засьпяваў белую песьню, — а яна забегла ў падстрэшак, прымерзла там і вісіць сабе нібыта белы лядзяш. У белае вавёркі нарадзіліся белыя ваверанят кі; загуляліся малыя сярод вецьця, маці іх гукала-гукала — ня можа знайсьці. Бо ўсе дрэвы таксама белыя. Іду я па лесе й ні трохі не разумею, дзе дрэва, дзе белы дзень.

Белы дым выплывае з комінаў і нават атрамант у шклянцы зрабіўся белы — ня ведаю, ці ўбачыце вы, што тут напісана. Ямо толькі белы хлеб і п'ем белую каву. Сёньня ўраньні зьбіраўся паваксаваць боты, бачу — вакса й тая зьбялела.
Гаўя белая — закінуў вуду, выцягнуў белага шчупака. Распароў шчупака, а ў ягоным брусе качаня (праглынуў, глытня!). Утыркнуў я качанятку ў хвост гэтую цыдулку, пусьціў — хай ляціць. Калі раптам сустрэнеце, — пакарміце, падрэжце крылцы, каб ня ўцекла, і штовечара грэйце яму жывот белай грэлкай. Як зьнясе залатое яечка, адразу дашліце мне ліста.
Мой адрас: Белы Сьляпак на беразе Гаўі.

P.S. Калі хочаце, дык намалюйце ўсё гэта, толькі — белай фарбай, безь ніводнае чорнае рысачкі.

## *Жоўтая казка*

Сонца, нібыта жаўток, зьзяла над сьветам. На сонцы віравала жыцьцё. На зямлю па ягоных промнях ішлі маленькія сьветла-жоўтыя куранят кі. Крыху пазьней яны ўсе прыбяруцца ў розныя колеры, а напачатку зьяўляюцца толькі жоўтыя. У жоўтае пчалы й жытло жоўтае; яна запрасіла кураня ў свой вулей, але куранятка ня здолела ўзьлезьці. «Нічога, — падумала яно. — Вунь навокал лётаюць жоўтыя матылі, такія самыя, як я; палячу зь імі». Куранятка падскочыла, але тут узгадала, што ў яго амаль няма крылаў, толькі гэткія маленькія загагуліны з бакоў. «Але гэта нічога, — вырашыла куранятка. — Вырасту ў куру, тады палячу высока-высока». Яно залезла пад пер'е да мамы куры й заснула каля яе жоўтага жывата. А сонца сьвяцілася на небе, як смачны й хрусткі жоўты блінец.

Пчолы насіліся маленькімі плястылінавымі шарыкамі з аднаго дзьмухаўца на другі. Іхні вулей нагадваў вялізную жоўтую бібліятэку. Мядовыя рамкі да самай столі былі застаўленыя маленькімі жоўтымі тэлевізарамі, толькі на мейсцы экранаў сьвяціўся жоўты мёд.

Удалечыні красавалі жоўтыя палі й лугі, — курасьлеп, дзівасіл, а найбольш жоўтых дзьмухаўцоў, — узгоркі патаналі ў жоўтым зьзяньні. Самое сонца, здаецца, спала на вяршыні кургана ды выкачалася ў жоўтых дзьмухаўцах. Нават я ня вытрываў і паваліўся ў жоўтыя кветкі — і пылюся, і абліпаю, і абсыпаюся жоўтым пылком. Падыйшла жоўтая карова, думала, што я — жоўты дзьмухавец, і зьела мяне. Таму я далей напісаць не магу.

## *Брунатная казка.*

Я яго бачыў. Ён скочыў на патэльню, маленькі й брунатны, танчыў нешта на брунатных кавалачках бульбы й гукаў: «Брун! Брун! Брун!». Калі ж я кінуў у бульбу крыху перцу, ён чхнуў і зьнік.

Усе, хто бачыў яго, кажуць, быццам бы гэта маленькі брунатны мужычок, які зьяўляецца паўсюль, дзе што сьці гатуецца й пачынае крычаць: «Брун! Брун! Брун!», — і ўсё адразу робіцце брунатным і згатаваным. Убачыць яго цяжка, патрэбная вялікая вытрымка. Ажно мне зноўку закарцела на яго паглядзець. Ды вось толькі дзе.

Дзе? Там, дзе брунатнае. А дзе брунатнае? Думаю, што злаўлю яго каля баравікоў.

Вядома ж, што баравікі зь зямлі вылазяць белымі й толькі пасьля — немаведама як — робяцца брунатнымі. Там і мусіць быць брунатны мужычок. З ранку на сьвітаньні сядаю я ў баравіковым мейсцы пад хвояй і чакаю. Хутка ўжо зьявіцца баравік. Ага — вылазіць. Шапачка белая. Зараз нельга вачэй адводзіць. Неўзабаве павінны прыйсьці брунатны мужычок. Чакаю, чакаю — нікога няма. Чакаю, чакаю... Апчы-ы-і! Фу ты! Ну й напалохаў! Заяц чхае. Толькі я зірнуў у той бок, а баравік тым часам ужо ў брунатнае пафарбаваны. Брунатны мужычок пабываў, мяне надурыў.

Ну, нічога. Буду глядзець на іншы баравік. Тут абавязкова падпільную.

Гляджу, гляджу, гляджу, гляджу, гляджу, гляджу, гляджу, гляджу, гляджу... Ледзь скасіў вачыма, бачу — брунатны мураш нагу вывярнуў. Клыгае, клы-ыгае, шкада небараку. Ажно пакуль дапамагаю ўвярнуць яму нагу назад, баравік зноў пафарбаваны. Брунатны мужычок быў, сваю справу зрабіў дый незаўважаны зьнікнуў.

Мабыць, зраблю я вось што. Залезу, стаюся ў пячоры, якую смоўж сабе ў баравіку зладзіў. Ну, што ж, — запоўз сабе, чакаю. Ага, ідзе! Узлазіць на грыб, а я — гоп! — побач зь ім! І ён — гоп! — шуснуў у брусьніцы й прапаў.

Гэтак ён усё робіць — пакуль іншыя ня бачуць, ня чуюць. Зялёныя шышкі фарбуе ў брунатныя — гатовыя! Зялёныя жалуды — на брунатныя — зроблена! Толькі й чуваць: «Гатовае! Гатовае! Гатовае!». Аднаго разу спрабаваў адшукаць яго ў алешніку, калі гарэхі робяцца брунатныя. Гэта ён іх фарбуе. Але пакуль выглядаю мужычка ў вадной гронцы, ён фарбуе другую. І кліча раз-пораз: «Брун! Брун! Брун!». Нарэшце, падсеў я да аднае гронкі. Пачакаю. Калі астатнія гронкі зробіць, прыйдзе й да гэтай. Сачу гадзіну, другую, трэйцюю. Адзін дзень пільную, другі — дакуль жа гэтая гронка застанецца зялёнай? Раптам ні з пушчы, ні з поля прылятае брунатная пчала, чапляецца за маю чупрыну й так раве, ну роўна буралом у лесе. Хай сабе верашчыць! Я ведаю, што яна гэта робіць знарок, каб я ўцёк і ня ўбачыў, як прыйдзе брунатны мужычок. Ня буду зважаць на яе. Няхай вішчыць, няхай джаліць, калі жадае, — я сачу за гронкай гарэхаў: зараз зьявіцца.

Дзынннн! — маленькая брунатная кузурка трапляе мне проста ў вока. Пакуль я адтуль яе выцягваю, бачу — гронка ўжо пафарбаваная ў брунатнае.

Тады я ўцяміў, што брунатны мужычок ня хоча, каб яго бачылі й болей да яго не чапляўся. А ў мінулае лета ляжу на пяску каля мора, — навокал багата народу сьмягне на сонцы, — зірнуў, а на плячах у Яна ажно сем! Маленькія брунатныя мужычкі фарбуюць яго ў брунатны колер. Сказаў Яну — той сьмяецца, ня верыць. «Гэта ты, — кажа, — сыпаў мне пясок на плечы. Такіх мужычкоў не бывае».

Як жа не бывае, калі я сам бачыў! Вось толькі кожны ня бачыць. Вялі-ікая вытрымка трэба.

Ніхто ня ведае, дзе яны жывуць. Адныя кажуць: у футры ў мядзьведзя; другія гавораць: у брунатным лішайніку; яшчэ нехта сьцьвярджае: у дубовых жалудах ці пад карой хвоі.

Вымаўляць яны ўмеюць, напэўна, толькі два словы: *брунатнае* й *гатовае*. Ледзь яны гэтак скажуць — усё сьпее й лопаецца: каштаны адрываюцца ад сваіх капялюшыкаў, а да Брунаткі прыбягае брунатнае цяля.

Адно нікому невядомае: як іх клічуць. Брунацікі? Бруналі? Гатоўчыкі? Гатавеі? Можа вы дзе чулі?

Пераклаў з латыскай Альгерд Чыж.

# *Vieršy dla zavučvańnia*




### Čarapacha

Voś maruda, dyk maruda!
Nie śpiašajecca nikudy.
— Ty čamu ŭvieś čas pavoli
Ledźvie ciahnieśsia pa dole?
Adkazała čarapacha:
— Ja i tak dryžu ad strachu,
Raptam dzieści spatyknusia —
Pancyr svoj pabić bajusia.
Voś niaŭdacha, dyk niaŭdacha —
Bajaźliŭka čarapacha!

*(P.Marcinovič)*

### Voŭk

Chvošča, chvošča doždž.
Voŭk schavaŭsia ŭ chvošč.
Chvost pad chvaščom,
A sam pad daždžom.

### Pavučok

Krosny vytkaŭ pavučok,
Sam schavaŭsia za sučok.
Zamarkociŭsia jon troški:
Ani muchi, ani moški
Siońnia ŭ sietku nie laciać —
Znoŭ hałodny łaža spać.

*(S.Šuškievič)*

# Dosmana moschata

*«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!»*

**Розныя істоты сталі сымболямі розных народаў. Усялякія варыяцыі арлоў ды ільвоў, кенгуру й драконаў аздабляюць афіцыйныя рэгаліі многіх краінаў. Дзеля сымболю бяруцца неабавязкова самыя распаўсюджаныя жывёлы, хутчэй наадварот, — унікальныя. Да прыкладу, у Новай Зэляндыі на манэты б'юць выяву гатэрыі (дзюбагаловай яшчаркі, «сваячкі» дыназаўраў), якая жыве на ланцужку маленькіх выспаў Чатэм, што ў Ціхім акіяне. Гатэрыя — цуд прыроды тых краёў, рэліктавы паўзун, якога няма больш нідзе ў сьвеце. І шануюць яе навазэляндцы як унікум, берагчы які выпала менавіта ім. Гэтак праз адказнасьць ды руплівасьць прыходзіць усьведамленьне мейсца свае нацыі на сьвеце.**

**Беларусь за сваю гісторыю зьведала шмат відаў жывёлаў, якія цяпер ужо адыйшлі назаўсёды. Некаторыя выміраюць і зараз. Магчыма, нават у гэтую самую хвіліну, калі Вы чытаеце гэты тэкст...**

Нідзе па-за межамі нашых краёў не існуе гэты зьвярок, якога Вы бачыце на малюнку. Хто гэта? Гэта хахуля. Або dosmana moschata.

Гэтая істота не прынесла чалавеку аніякае шкоды: і сілкуецца тым, чаго чалавек не ўжывае, — інсэктамі, казюркамі ды сьлімакамі; і жыве там, дзе не жывуць людзі, — у падводных норках пад топкімі берагамі нетаропкіх рэк. Але ў яе адмысловая поўсьць. Зьверху цёмная шэра-бурая, а ўнізе, на трыбушку — срабрыста-белая. Ды яшчэ зьмяняецца ў залежнасьці ад асьвятленьня...

Чалавеку мала апранацца добра, яму трэба апранацца дорага. Выдаткам гэтага чалавечага жаданьня й стала вынішчэньне безабароннага зьвярка — хахулі.

Вядома ж, прыгожае футра — ня ўсё, што ёсьць у хахулі. Яна мае доўгі й пляскаты хвост, які дапамагае ёй плаваць. Хвост пакрыты дробнымі лускавічкамі ды валаскамі. Для жыцьця ў вадзе прызначаны й перапонкі, як у качак, на задніх лапах хахулі. Кшталтам качканоса, што з Аўстраліі, хахулю можна было б назваць качкалапам. А пярэднія лапкі ў яе зусім малыя, ледзьве дацягваюцца да даўгаватага й гнуткага носу.

Бліжэйшыя суродзічы хахулі — вожык і буразубка.

Пад час анэксіі Беларусі Расеяй хахулі жылі ў Пасожжы. Але ўжо ў 1951 годзе яны вадзіліся толькі на рацэ Асьцёр на Магілеўшчыне. Для іх гэта было бадай адзінае мейсца ў Эўропе. З таго часу іх больш ня бачылі...

H.S.



*Малюнак Сяргея Харэўскага.*

Аб усім патроху

### Памежны канфлікт

Паміж татарамі ды башкірамі таксама няма міру. Татарскія актывісты кажуць, што тэрыторыя былой Уфімскай губэрні з больш чым мільённым татарскім насельніцтвам у 1922 годзе бяз згоды гэтага насельніцтва была далучаная да Башкірыі. А сёньня ў Башкірыі не даюць адкрыць татарскі тэатар, школы, выдаваць кнігі па-татарску. Мяжа Татарыі й Башкірыі праходзіць сёньня па рацэ Ік.

### Датацыі на друк

У 1991 годзе ў Летуве датацыі зь дзяржаўнага бюджэту дасталі: часопіс *Вильнюс* 330 тыс. руб., тыднёвік *Literatura ir menas* 73 тыс., газэты: расейская *Эхо Литвы* 690 тыс., польская *Kurier Wileński* 852 тыс., летувіская *Lietuvos aidas* 1 млн. 290 тыс. ды іншыя, у тым ліку й прыватная расейская газэта *Каунасский вестник*. Віленскай *Нашай Нівы* ў гэтым сьпісе пакуль няма.

### Рубін — выбуховы тэлевізар

75 мільёнаў злотых — гэткія страты прынес ва Ўроцлаве выбух аднаго каляровага савецкага тэлевізара «Рубін» «Ад выбуху «Рубіна» немагчыма абараніцца, — сказаў карэспандэнту польскай *Gazety Wyborczej* афіцэр пажарнае аховы, — не запабягае выбуху нават выключэньне тэлевізара зь сеткі».

### Беларусы-казакі

Многія лічаць, што казакі — гэта толькі украінцы. Але вось пра што сьведчыць *Рэестар казакаў, якія хадзілі з каралём на Маскву*. Гэты рэестар — адзін з даўнейшых пісьмовых дакумантаў пра казацтва. Ён быў напісаны ў 1581 годзе. Казакаў запрасіў на дзяржаўную службу кароль Рэчы Паспалітае Сьцяпан Батура. Іх было 500 асобаў, і амаль кожны чацьверты — беларус. Вось некаторыя імёны: Васька Брагінец, Сьцяпан Пінчук, Мікола з Мазыра, Андрэй Случанін, Сазон з Турава, Конан з Магілеву, Андрэй Пятровіч зь Менску, Лукаш з Наваградку, Васька з Гомля, Марцін зь Вільні, Хведзька з Быхава, Іван з Бабруйска, Мартын Мсьціславец, Гермяк з Барысава, Марка з Полацка, Іван з Гарадка Давыдава, Даніла з Койданава ды іншыя. Разам атрымліваецца блізу 120 чалавек. Былі ў казацкім войску, апроч беларусаў ды ўкраінцаў, колькі палякаў і адзін крымскі татарын. А тых, хто хоча больш грунтоўна пазнаёміцца з Рэестрам, адсылаю да артыкула Яраслава Дзіры ў тыднёвіку *Літературна Україна*, 24 за гэты год.

В.Валмянскі.

### Польскае радыё па-беларуску

З 1 ліпеня замежная праграма польскага радыё пачала перадаваць паўгадзінавыя перадачы па-летувіску для слухачоў у Летуве. Перадачы пачынаюцца штодзённа на кароткіх хвалях 25 і 31 м. У блізкім часе польскае радыё будзе перадаваць праграмы таксама па-беларуску й па-ўкраінску.

G.W.

## Авін Ашан — чытай наадварот

*Мэнэ, мэнэ, тэкель, ухварсін* — так гучаў першы вядомы нам зашыфраваны тэкст, які падае Сьвятое пісьмо ў Кнізе прарока Данілы.

Было гэта ў 539 годзе новай эры. У часе піру ў тагачаснага ўладара Бабілёну Бальтазара таямнічая рука напісала загадкавыя словы на сьцяне. Нягледзячы на абяцаньне высокай узнагароды, ніводзін з бабілёнскіх мудрацоў не патрапіў раскрыць значэньне гэтых словаў. Патрапіў толькі Даніла, які тым часам аказаўся на бабілёнскім двары. І было то пасланьне ад Бога, якое прадказвала сьмерць Бальтазара і распад бабілёнскае дзяржавы.

Пра адзін з найстарэйшых спосабаў шыфроўкі пасланьняў успамінае грэцкі філёзаф Плутарх. Вузкую й доўгую паску пэргаміну абвівалі вакол драўлянага прадмета й пісалі па ёй уздоўж прадмета. Пасьля гэтага паску здымалі, й цяпер пасланьне мог прачытаць толькі чалавек, які меў гэткі самы драўляны прадмет і ведаў, як абвіваць яго паскай. Зусім дасканала гэткі спосаб старажытнага шыфраваньня апісаны ў рамане Ўладзімера Караткевіча «Чорны замак Альшанскі».

Ня менш стары й гэткі спосаб. Адзін з грэцкіх важакоў, які трапіў у няволю да пэрсаў у V ст. н.э. выраш[illegible] паслаць свайму зяцю ліст з просьбай [illegible] дапамогу. Выклікаў самага вернага свайго нявольніка, загадаў яму згаліць валасы на галаве й вытатуяваць на ёй зьмест пасланьня. Пасланец, зразумела, мог рушыць у дарогу толькі тады, калі валасы адрасьлі. Для перказу гэткім спосабам даўжэйшых лістоў ужывалі за раз нават некалькі пасланцоў, што ў выпадку гібелі аднаго зь іх пагражала стратай агульнага сэнсу паведамленьня.

Больш цывілізаваную сыстэму вынайшаў грэцкі гісторык Палібій. Дзеля шыфроўкі тэксту ён ужываў квадрат, які да сёньня называюць квадратам Палібія.

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | a | b | c | d | e |
| 2 | f | g | h | i | k |
| 3 | l | m | n | o | p |
| 4 | q | r | s | t | u |
| 5 | v | w | x | y | z |

Кожная літара перадаецца дзьвюма адпаведнымі ёй лічбамі — з вэртыкальнага шэрагу і з гарызантальнага. *Naša Niva*, зашыфраваная такім чынам, будзе выглядаць так: 33-11-43-11-33-24-51-11.

А вось шыфр, які прыдумаў Юлі Цэзар. Сутнасьць — ва ўжываньні альфабэту, пасунутага на некалькі літараў. Арыгінальны шыфр Цэзара быў пасунуты на тры літары: пачынаўся з d і сканчаўся c. У такім варыянце *Naša Niva* будзе выглядаць так: qdvd qmyd.

З разьвіцьцём матэматыкі ў XV, XVI, XVII ст. пачынаецца значны поступ у спосабах шыфраваньня. Крыптаграфія, навука пра шыфры, рабілася ўсё менш даступная для недасьведчаных. Калі аднак не ставала досьведу, каб пакарыстацца найбольш складанымі мэтодамі, дык хапаліся за што прасьцейшае.

Напрыклад, пісалі паведамленьне на зрэзе калоды картаў, пасьля карты мяшалі. Каб прачытаць паведамленьне, дастаткова было скласьці калоду ў дамоўленым парадку.

У XIX ст. у Вангліі кошт паштовае перасылкі ліста быў адносна вялікі, тады як перасылка газэт была вызваленая ад аплаты. Замест лістоў ангельцы дасылалі адзін аднаму газэты, пазначаючы зьмест ліста кропкамі па-над літарамі газэтных тэкстаў.

Шырока карысталіся й карыстаюцца рознымі шыфрамі ўсялякія злачынцы, вайскоўцы і гандляры. Як вядома, апроч грошай, сьветам кіруе яшчэ й інфармацыя. Таму ня выключана, што праз пару гадоў і ў нас, у кожнай фірме, апроч факсу ды кампутара, будзе стаяць адмысловае прыстасаваньне для шыфроўкі паштовых паведамленьняў...

G.W.



## Прэзыдэнцкія ракады

Паведамленьне пра прыезд у Варшаву чэмпіёна сьвету Гары Каспарава й заплянаваную партыю зь Лехам Валэнсам — добрая нагода для гаворкі на тэму: палітыкі й шахматысты. Без сумлеву, шахматныя двубоі пасуюць дыпляматычным салёнам больш, чым пін-понг ці кеглі. Нічога дзіўнага, што, акрамя гольфа й тэніса, менавіта шахматы сталіся адной з пляцовак супернiцтва ў кіраўнічых сфэрах, сінонімам дыпляматычнае гульні.

Сярод прэзыдэнтаў толькі Вітаўтас Ландсбергіс пачынаў турнірную кар'еру шахматыста. Нядаўна часопіс *Шахматы в СССР* нагадаў, што Ландсбергіс меў шанцы стаць моцным шахматыстам. У 1951 г., будучы студэнтам кансэрваторыі ў Вільні й маючы ступень кандыдата ў майстры спорту, ён стартаваў на адкрытым чэмпіянаце Летувы. Занятае ім сёмае мейсца было вельмі высокае, зважаючы, што на першых мейсцах апынуліся такія вядомыя прафэсыяналы, як шматразовы чэмпіён Летувы Халмоў, прэтэндэнт на тытул чэмпіёна сьвету Ліліенталь, будучы чэмпіён сьвету Петрасян, пазьнейшыя грасмайстры Мікенас і Сімагін. Надалей аднак Ландсбергіс аддаў перавагу музыцы.

Энтузіястам шахматаў зьяўляецца таксама прэзыдэнт Вацлаў Гавал, што адбілася і ў ягонай творчасьці. Мінулым летам у Празе Гавал узяў удзел ва ўрачыстасьці адкрыцьця турніру грасмайстраў з удзелам чэхаславацкіх эмігрантаў ды згуляў паказальную партыю з Бэсэлем Кокам, галоўным спонсарам таго турніру. Абодвум у канцовай фазе партыі дапамагалі дарадцы. Памочнікам Кока быў грасмайстар Кавалек, а памочнікам прэзыдэнта — менш тытулаваны шахматыст. Тым большым посьпехам была перамога Гавала.

Зразумела, вялікія майстры часта высакародна паддаваліся ў двубоях вялікім палітыкам. Калі ў 1884 г. дайшло да партыі ў шахматы паміж каралевай Вікторыяй, якая была нёблагая шахматыстка, і адным з найвялікшых у гісторыі грасмайстраў Полем Морфі, *New Orleans Times Demokrat* напісаў потым: «Морфі шляхетна дазволіў Яе Высокасьці перамагчы». Дадамо, што ён не дазволіў гэтага ня толькі большасьці шахматыстаў, але й самому Напалеону III.

А вось навейшы прыклад. Чэмпіён сьвету Тыгран Петрасян прапанаваў «дыпляматычную» нічыю Фідэлю Кастру падчас партыі 1966 году на гаванскай шахматнай алімпіядзе.

Заўзятым шахматыстам быў Юзаф Пілсудзкі. Пад ягоным пратэктаратам праходзілі чэмпіянат Польшчы (тут Пілсудзкі фундаваў вельмі высокую ўзнагароду за самую прыгожую партыю) і алімпіяда ў Варшаве ў 1935 г.

Ёсіп Броз Ціта ганарыўся тытулам кандыдата ў майстры й часта гуляў у шахматы ў партызанцы. Ён таксама быў патронам дзьвюх шахматных алімпіядаў у Югаславіі і фундаваў высокія турнірныя ўзнагароды.

На пераломе 40-х і 50-х гадоў, калі Сталін праклянуў Ціта, у СССР пачуліся галасы сумлеву ў ягоных шахматных здольнасьцях. Тады Ціта прапанаваў згуляць усяму савецкаму Палітбюро. Прапанова засталася без адказу.

Безумоўна высокая пазыцыя ў сьвеце шахматыстаў Югаславіі, Вугоршчыны й Філіпінаў пасьля другой сусьветнай вайны — гэта ў пэўнай меры заслуга Ціта, Кадара й Маркаса.

Нешта падобнае было і ў СССР, дзе з першых гадоў пасьля рэвалюцыі прапаганда шахматаў была незвычайна шырокая. Аўтарытэт гульні падняўся так высока, што пазьней прыйшлося дарабляць «шахматныя» легенды да жыцьцярысаў Леніна, Сталіна ды іншых правадыроў. Аднак гэта не перашкодзіла ў часе чыстак выслаць у лягер ці расстраляць нават найвыдатнейшых прафэсыяналаў.

Сьпіс славутых палітыкаў, якія гуляюць у шахматы, вялікі. Тут усе прэм'еры Вялікабрытаніі за выключэньнем Маргарэт Тэчар, якая аднак не ўпусьціла нагоды, каб адкрыць матч Каспараў — Карпаў у Лёндане ў 1986 г. Не вядома, ці залічвае сябе да шахматыстаў Джон Мэйджар, які прапанаваў Леху Валэнсу партыю ў крэкет на польскія даўгі. У гэтым сьпісе таксама Францўа Мітэран і Валеры Жыскар д'Эстэн, Рыхард фон Вайцзэкер, Вілі Брант і Гэльмут Шміт, Гамаль Абдэль Насэр і Генры Кісэнджэр, Ян Масарык і Мэнахэм Бэгін.

Гулялі й гуляюць у шахматы дыктатары й дэмакраты, кансэрватары й лібэралы, сацыялісты й камуністы, рэвалюцыянэры й партызаны. З гэтых апошніх можна згадаць Хо Шы Міна, які, дарэчы, напісаў вершы пра шахматы, Эрнэста Чэ Гевару й Фідэля Кастру.

Без увагі на палітычную арыентацыю і абавязкі, усе яны прызнаюць шахматы за важны сродак адукацыі палітыкаў. Ня дзіўна, што ў 1987 г. *The Times* пісаў занепакоена, што «зважаючы на зьмяншэньне ліку парлямэнтароў, якія цікавяцца шахматамі, прызначаны для гэтай гульні пакой у Вэстмінстэрскім палацы будзе адкрыты таксама для азартных гульняў, такіх, як покер». Які будзе палітык — покершчык?..

G.W.

# У галерэі Б.

### камэнтар да камэнтара

*Веданьне таго, што ўсё ўжо напісанае, зьнішчае нас, або ператварае ў прывіды.*
Х.Л.Борхэс

*Іншым часам мне здавалася, што сам Борхэс ёсьць таксама прывід*
Актавія Пас

**У сваёй сутнасьці гэты чалавек быў Ніхто, і праз гэтае сьціплае азначэньне стала ўваходзіў у невялічкае элітарнае кола культурных герояў нашага стагодзьдзя. Ён быў Ніхто, бо быць кімсьці значыла ў ягоны час стаць рабом, ахвяраваць сябе зададзенаму назаўсёды зьместу. Цяпер, пасьля сьмерці, калі ягонае жыцьцё набыло нарэшце цэльнасьць, ад якой ён так упарта адпрэчваўся, надарылася магчымасьць ушанаваць яго памяць...**

**Тэкст гэты замоўлены часопісам, які называецца *Літаратура заўтра*, што вызваляе мяне ад неабходнасьці шукаць словы, каб акрэсьліваць жанр ды пераконваць у тым, што ён існаваў, вітаўся пры сустрэчах і прачынаўся зранку. Адразу мушу сказаць, што ня маю аніякіх намераў захоўваць праўдападабенства. Сапраўды, ці варта імкнуцца да падабенства, калі потым непазьбежна ўцяміш, што са сьпісаных старонак на цябе глядзіць твар чужога, незнаёмага чалавека!?**

**Зрэшты, гэты тэкст — камэнтар да аднаго зь ягоных апавяданьняў (ці наадварот — апавяданьне пра ягоны камэнтар), напісанага ў 1941 годзе й названага «Бабілёнская бібліятэка».**

**Самы назоў ужо паказальны. Пасьлядоўнікі Арыстотэлеўскае лёгікі без сумліву вызначылі б гэтыя два словы як «пустое паняцьце», спасылаючыся на тое, што мы ня маем зьвестак пра рэальнае існаваньне такой бібліятэкі, ня маем яе каталёгаў, нават проста згадак пра яе ў іншых тэкстах іншых аўтараў іншых эпохаў — ня маем.**

**На жаль, гэта так. І я не знаходжу аргумантаў, каб абвергнуць гэтае меркаваньне. Мушу прызнаць (з пачуцьцём пэўнага жалю), што назоў з самага пачатку вядзе нас у прастору ўтопій, зданяў, культуралягічных фікцыяў.**

**Але прастора гэтая нават пры ўсёй сваёй няпэўнасьці ўсё адно застаецца прасторай, г.зн. мейсцам, у якім мы сябе знаходзім, якое абжываем, якому надаем сэнс і значнасьць. Было б дзіўна, трапіўшы ў Бібліятэку (некаторыя называюць яе Сусьветам), пачаць з таго, што адмовіць ёй у існаваньні на той падставе, што ў вадной зь ейных кніг, якая трактуе ўнівэрсаліі чалавечага мысьленьня, сфармуляваны закон, паводле якога яна існаваць ня можа.**

**Больш пасьлядоўна будзе (магчыма, з павагі да Аўтара) прыняць адваротную тэзу: Бібліятэка існуе й мы знаходзімся ў вадной з яе шасьцікутных галерэяў. Гэта адзінае, што мы маглі б прыняць на веру (калі тут дазволена будзе ўжыць гэтае слова), усё іншае ёсьць справа густу й патрабуе акрэсьленых тлумачэньняў.**

**Але прасунемся крыху далей за назоў.**

Перад намі тэкст, напісаны невядомай асобай, жанр якога — няпэўны кампраміс паміж жыцьцяпіснымі нататкамі й гісторыяй Бібліятэкі. Напачатку мы даведваемся, што аўтар — падарожнік, але асаблівага кшталту. Ён палюе (дакладней, паляваў) на Кнігу Кніг альбо Каталёг Каталёгаў. Сьцьвярджаць, што такая кніга існуе ці йснавала, досыць рызыкоўна, але, мабыць, гэта тая памылка, ухіліцца ад якой немагчыма. Далей апісаньне ягоных падарожжаў мяжуе з разгорнутымі інфармацыямі зь гісторыі й мэтафізыкі Бібліятэкі, усё гэта афарбавана ў лёгкі й незразумелы сум, пра крыніцу якога мы даведваемся з апошніх абзацаў.

Я тут маю на ўвазе не саманадзейную спробу разгадаць тайну Бібліятэкі — гэта ня мае сэнсу, бо тайна, якую можна разгадаць, ня проста перастае быць тайнай — яна ня ёсьць ёю ўжо ад пачатку. Для нас больш істотная іншая фраза, ужытая паміж іншым сярод матэматычных развагаў:

«... Гэты мой твор — шматслоўны й абсурдны — ужо існуе ў вадным з трыццаці тамоў на адной зь пяці паліцаў...» І далей: «Веданьне таго, што ўсё ўжо напісанае, зьнішчае нас або ператварае ў прывіды».

Відавочная непасьлядоўнасьць гэтых двух сказаў (зь якіх вынікае, што самога аўтара няма або ў працэсе пісаньня ён ператвараецца ў прывіда) вымушае нас падазраваць, што нешта вельмі істотнае ў гэтым тэксьце альбо ўтоенае, альбо сьведама пададзенае ня так, як яно ёсьць на самой справе.

Упершыню на гэта зьвярнуў увагу Ёвіца Ачын у невялічкай брашуры «Элемэнты ўступу да фантастычнае мэтафізыкі» (Белград, 1986), але ягоная прапанова — аднесьці непасьлядоўнасьць і парадаксальнасьць да анталягічных унівэрсаліяў самое Бібліятэкі — анічога не прасьвятляе ды пакідае ўсё як ёсьць непасьлядоўным і цьмяным. Я бы прапанаваў не мэтафізычнае, а хутчэй псыхалягічнае тлумачэньне.

Вернемся да аўтара й паспрабуем прачытаць тэкст зноў.

Па сутнасьці, перад намі гісторыя аднае няўдачы, альбо, калі хочаце, правалу. Доўгія падарожжы ў пошуках Кнігі Кніг і, урэшце, — чаканьне сьмерці непадалёк ад таго мейсца, дзе нарадзіўся, зь цьмяным спадзяваньнем на пэрыядычнасьць знакавага абсурду (як быццам пэрыядычнасьці галерэяў (некаторыя завуць іх клеткамі) недастаткова).

Адчуваньне таго, што ўсё жыцьцё прайшло ў пошуках рэчы, якая існуе адно як мэнтальны фантом, штурхае яго на акт помсты. Уцяміўшы, што камэнтар да прывіда сам робіцца прывідам, а потым і камэнтар да камэнтара й г.д., невядомы аўтар вырашыў запусьціць гэты ланцуг, спадзеючыся, што Бібліятэка, вечная й дасканалая, паступова пяройдзе ў вымярэньне няіснага, у каляровую пустку, у Нішто*...

І я, той, хто піша гэты тэкст, і вы, тыя, хто яго чытае, ужо таксама прывіды.

* Марцін Хайдэгер, «патаемны кароль думкі» нашага стагодзьдзя, выказаў неяк думку, якая робіць маю гіпотэзу (а таксама і ўсю Бібліятэку) праблематычнай: «Бібліятэка, — сказаў ён, — са сваімі бясконцымі галерэямі й паліцамі, зь гісторыяй і мэтафізыкай, з усім тым, што на чалавечай мове завецца існым, — гэта Адзіны Вялікі Прывід, непазьбежная галюцынацыя, якую мы бясконца творым і якая творыць нас, каб забыцца на тое, што ўрэшце нам наканаваны лёт у цёплым паветры, уніз, праз Нішто, туды, дзе ўжо няма словаў, і дзе адкрывае ды ўтойвае сябе Быцьцё».

Францішак Эн.



*Малюнак С.Харэўскага*

# Бабілёнская бібліятэка

## Хорхэ Луіс Борхэс



**Чаму б нам не надрукаваць**
**у Нашай Ніве ўсяго Борхэса?**
**Абавязкова з камэнтарамі!..**
**Ці Вы супраць?**
**Ці Вам не даспадобы Борхэс?**
**Цяжка сказаць...**
**Мы пачнем, а Вы нам пішыце.**
**І калі аргумантаў супраць усяго**
**Борхэса ў НН будзе больш,**
**чым аргумантаў за, — мы, далібог,**
**замест Борхэса пачнем друкаваць**
**гэтыя аргуманты...**
**Кажуць, «на Борхэсе» стаіць уся**
**сучасная сусьветная культура.**
**А мы — гэта сусьветная культура ці не?**
**На чым стаім мы?**

*By this art you may contemplate the variation of the 23 letters...**
The Anatomy of Melancholy, part. 2, sect. II, mem. IV

Сусьвет (які іншыя называюць Бібліятэкаю) складаецца зь неабмежаванае, а магчыма бязьмежнае, колькасьці шасьцікутных галерэяў з шырокімі вэнтыляцыйнымі шахтамі пасярэдзіне, абгароджанымі нізенькімі парэнчамі. Ад кожнага шасьцікутніка ўгору й надол адыходзяць незьлічоныя паверхі. Пабудова галерэяў нязьменная. Дваццаць даўгіх паліцаў, па пяць на кожнай сьцяне, запаўняюць усе сьцены апроч дзьвюх; вышыня галерэі, роўная вышыні паверху, крыху большая за рост звычайнага бібліятэкара. У вадной зь незанятых сьценаў ёсьць выхад у вузенькі калідорчык, што вядзе ў другую галерэю, ідэнтычную першай і ўсім астатнім. Зьлева й справа ад калідора ёсьць два маленечкія пакоі. У вадным можна стоячы спаць, у другім спраўляць фэкальныя патрэбы. Тут жа віюцца кручаныя сходы, якія ўздымаюцца ў вышыні й апускаюцца ў прорву да несканчонасьці. У калідорчыку вісіць люстэрка, якое паслухмяна падвойвае від. Гэтае люстэрка звычайна прыводзіць людзей да высновы, што Бібліятэка не бясконцая (калі б яна сапраўды была бясконцая, нашто б тады было такое ўяўнае падваеньне?); я ж схіляюся да думкі, што гэтыя шліфаваныя паверхні адбіваюць і абяцаюць бясконцае... Сьвятло паходзіць зь некалькіх сфэрычных пладоў, называных лямпамі. Іх дзьве ў кожным шасьцікутніку: з бакоў. Сьвятло, што зь іх ліецца, прыцьмёнае, няспыннае.

* Гэткім чынам ты можаш сузіраць спалучэньні 23-х літараў...

Як усе людзі Бібліятэкі, я падарожнічаў у маладосьці; я вандраваў у пошуках аднае кнігі, каталёга ўсіх каталёгаў; цяпер жа, калі вочы мае амаль ня здольныя разгледзець тое, што я пішу, я рыхтуюся памерці за колькі міляў ад шасьцікутніка, у якім я нарадзіўся. Калі я памру, знойдуцца літасьцівыя рукі, што перакінуць мяне праз парэнчы; магілаю мне будзе бяздоннае паветра; маё цела абрынецца павольна й распадзецца й распусьціцца ў ветры, што ўзьнікне ад майго бясконцага падзеньня. Я сьцьвярджаю, што Бібліятэка бязьмежная. Ідэалісты даводзяць, што шасьцікутныя залі — неабходная форма абсалютнае прасторы, або, прынамсі, нашага ўспрыманьня прасторы. Яны мяркуюць, што немагчыма сабе ўявіць трохкутную або пяцікутную залю. (Містыкі сьцьвярджаюць, што ў экстазе ім уяўляецца круглы пакой і ў ім вялікая круглая кніга з суцэльным карэньчыкам, які ідзе кругам уздоўж сьцяны; але іхнае сьведчаньне ненадзейнае, а словы іх цьмяныя. Гэтаю цыклічнаю кнігаю ёсьць Бог.) Пакуль жа мне дастаткова падаць клясычнае вызначэньне: *Бібліятэка — гэта сфэра, дакладны цэнтар якое знаходзіцца ў любым шасьцікутніку і паверхня якое недасягальная.*

На кожнай сьцяне кожнага шасьцікутніка разьмешчана пяць паліцаў; кожная паліца зьмяшчае трыццаць дзьве кнігі аднолькавага фармату; у кожнай кнізе чатырыста дзесяць старонак; на кожнай старонцы сорак радкоў, у кожным радку па восемдзесят літараў чорнага колеру. Ёсьць літары таксама й на сьпінцы кожнае кнігі; гэтыя літары не азначаюць і не прадказваюць таго, пра што гаворыцца на старонках. Ведаю, што гэтая неадпаведнасьць часам здавалася загадкаваю. Перш чым выснаваць разгадку (адкрыцьцё якой, нягледзячы на яе трагічныя праекцыі, станецца, мабыць, найважнейшым фактам гісторыі), хачу прыгадаць некаторыя аксыёмы.

Першая: Бібліятэка існуе *ab aeterno**. У гэтай ісьціне, непасрэднаю высновай якое ёсьць будучая вечнасьць сьвету, ніводзін здаровы розум ня можа сумнявацца. Чалавек, недасканалы бібліятэкар, можа быць творам выпадку або зламысных дэміургаў; толькі сусьвет, з прыгожа дастасаванымі паліцамі, таямнічымі тамамі, нястомнымі лесьвіцамі для падарожніка і прыбіральняю для ціхмянага бібліятэкара, можа быць творам нейкага бога. Каб адчуць адлегласьць паміж боскім і чалавечым, дастаткова параўнаць гэтыя нязграбныя дрыготкія знакі, якія мая няпэўная рука грымзоліць на вокладцы кнігі, з суладнымі літарамі ўсярэдзіне яе: дакладнымі, тонкімі, незвычайна чорнымі, непаўторна сымэтрычнымі.

* вечна.

# Баляслаў Лесьмян

## Гад

Ішла з малаком у грудзях цераз сад,
Ажно ля альхі падсьцярог яе гад.

Заціснуў, абвіў з галавы і да ног
І песьціў, і лашчыў, і джаліў, як мог.

Вучыў забывацца зьнямоглую сном
І гладзіў саскі прахалодным ілбом,

І ад асалоды, салодшай за скон,
Дрыжэць і зьвівацца, і сыкаць, як ён.

— Пажады маёй ты ўжо зьведала жар:
Пусьці — каралеўскі прыймею я твар!

Табе я з дна мора дам скарбы на зьдзіў...
Стань яваю ява, а сон — прападзі!

— Ня скідвай луску і свой твар не зьмяняй:
Усё, як і ёсьць, застанецца няхай!

Люблю, калі джалам вядзеш ля брывоў,
Раўнаючы іх, калі сьсеш з вуснаў кроў.

Люблю, калі ўесься ты ўздоўж маіх ног
І перыш ілбом аб улоньня парог.

З абодвух саскоў маіх пі наўзамен!
Ня трэба мне скарбаў, ня прагну я зьмен.

Салодкая сьліна вужакі на смак —
Будзь гадам і песьці і гэтак, і так!

* * *

Выйшла з бору амаль што сьляпая пачвара,
Плод бяздумнасьці соннай сваёй. Пазірае
У нязвыклае ёй паднябесьсе за хмары —
У сусьвет, які не разумее, ня знае.

Як па місе з гаючай атрутаю, цягне
Па калюзе шурпатае цела паволі,
Кроў глыткамі галоднымі
з кветак сьсе прагна
І смуродам захутвае ўсё наваколье.

Зьвер страшлівы, які неўзабаве загіне,
Бо ўсё труціць і нішчыць
дыханьнем тлятворным,
Ды калі ты рукой яго гладзіш па сьпіне,
Ён да ног тваіх туліцца й трэцца пакорна.

* * *

Што ў імгле чыніць ветразь на моры?
Анічога — толькі вяслуе.
А вясна на зялёным прасторы?
Анічога — толькі вяснуе.

Ці ня кроў на грудзёх тваіх зьзяе?
Не — ружанец з рубінаў.
Ці ня плач табе горла сьціскае?
Не — каралі з бурштыну.

Чым ты ў садзе быў, змрокам спавіты?
Духам быў, целам быў.
А навошта дзяўчыну забіў ты?
Не забіў, а любіў.

## Закляцьце

Нетапыр, табе ўсё на тым сьвеце
вядома —
Што нябожчыкі чыняць? — Ляжаць
нерухома.
А яшчэ што? — Ляжаць без дыханьня
ў здранцьвеньні,
І няма ім ні сонца, ні ветру, ні ценю!
Не галосяць, ня сьпяць, і ня верацьь
нікому
— Толькі так і ляжаць! Так ляжаць
нерухома!

Хай дзяўчына, якой авалодаць
ня здолеў,
Ляжа ў холад магільны той змрочнай
юдолі!
Непрытомная, слабкая, змружыўшы
вочы,
Хай заходзіцца юрам адна сярод ночы!
Хай ня плача, ня сьніць і ня верыць
нікому
— Хай ляжыць для мяне — хай ляжыць
нерухома!

Пераклад з польскай А.М.



*Малюнак С.Харэўскага.*

Другая: *Колькасьць знакаў складае дваццаць пяць.*[1] Гэтае цьверджаньне дазволіла трыста гадоў таму сфармуляваць агульную тэорыю Бібліятэкі і знайсьці прыймальнае рашэньне праблемы, якую ня вырашыла б і найлепшая гіпотэза: бясформнай і бязладнай прыроды амаль усіх кніг. Адна, якую мой бацька бачыў у шасьцікутніку аддзелу 15-94, складалася зь літараў MCV, якія паўтараліся ў розным парадку ад першага да апошняга радка. Другая (вельмі часта чытаная ў гэтай зоне) уяўляе сабою проста лябірынт зь літараў, але на перадапошняй старонцы сказана *О час, твае піраміды.* Ведама, што на адзін разумны радок або адно слушнае паведамленьне прыпадаюць цэлыя мілі бязглуздае какафоніі, слоўнага сьмецьця й няскладнасьці. (Я ведаю зьдзічэлыя мясьціны, дзе бібліятэкары адкінулі прымхлівую й пустую звычку шукаць у кнігах сэнс, параўнаўшы яе з шуканьнем сэнсу ў снах або ў бязладных рысках на далоні... Яны пагаджаюцца, што вынаходнікі пісьма перанялі дваццаць пяць прыродных знакаў, але сьцьвярджаюць, што гэтыя знакі ўжываюцца выпадкова і што кнігі самі па сабе нічога ня значаць. Гэтае цьверджаньне, як пабачым, не пазбаўленае слушнасьці.)

Доўгія часы лічылася, што гэтыя неспасьціжныя кнігі напісаныя нейкімі далёкімі зьніклымі мовамі. Гэта праўда, што даўнейшыя людзі, першыя бібліятэкары, карысталіся моваю даволі адрознай ад той, якою мы гаворым сёньня; праўда, што за колькі міляў справа адсюль гавораць іншым дыялектам, а за дзевяноста паверхаў угары мова зусім незразумелая. Усё гэта, паўтараю, праўда, але чатырыста дзесяць старонак нязьменнага MCV ня могуць адпавядаць ніякай мове, якая б дыялектная або няразьвітая яна ні была. Некаторыя меркавалі, што кожная літара можа ўплываць на наступную і што значэньне MCV у трэйцім радку старонкі 71 не супадае з тым, якое магло б мець тое самае спалучэньне ў іншым мейсцы на іншай старонцы, але гэтае адвольнае цьверджаньне посьпеху ня мела. Іншыя думалі пра тайнапіс; агульна гэтае меркаваньне было прынятае, хоць і ня ў тым сэньсе, у якім яго сфармулявалі ягоныя аўтары.

Пяцьсот гадоў таму начальнік аднаго зь верхніх шасьцікутнікаў[2] знайшоў кнігу, незразумелую, як і ўсе астатнія, у якой было аднак амаль два аркушы аднолькавых радкоў. Ён паказаў сваю знаходку вандроўнаму расшыфравальніку, які сказаў яму, што радкі напісаныя па-партугальску; іншыя сказалі яму, што на ідыш. Не мінула стагодзьдзя, як мова была вызначаная: самаеда-літоўскі дыялект мовы гуарані з канчаткамі клясычнае арабскае. Быў расчытаны і зьмест: асновы камбінаторнага аналізу, ілюстраваныя прыкладамі варыяцыяў зь неабмежаваным паўтарэньнем. Гэтыя прыклады дазволілі аднаму геніяльнаму бібліятэкару адкрыць фундамэнтальны закон Бібліятэкі. Гэты мысьляр заўважыў, што ўсе кнігі, якія б розныя яны ні былі, складаюцца з тых самых элемэнтаў: прагалу, кропкі, коскі, дваццаці дзьвюх літараў альфабэту. Ён таксама падаў адзін факт, які пацьвярджаюць усе падарожнікі: *Ва ўсёй вялікай Бібліятэцы няма дзьвюх аднолькавых кніг.* З гэтых неаспрэчных пасылак я зрабіў выснову, што Бібліятэка ўсеабдымная і што яе паліцы зьмяшчаюць усе магчымыя спалучэньні дваццацёх зь лішкам знакаў (колькасьць, хоць і неверагодна вялікая, але не бязьмежная), або ўсё тое, што можа быць выказанае: на ўсіх мовах. Усё: падрабязная гісторыя будучыні, аўтабіяграфіі арханёлаў, праўдзівы каталёг Бібліятэкі, тысячы й тысячы фальшывых каталёгаў, доказы фальшывасьці гэтых каталёгаў, доказы фальшывасьці праўдзівага каталёгу, гнастычнае эвангельле Васіліда, камэнтар да гэтага эвангельля, камэнтар да камэнтара да гэтага эвангельля, праўдзівае паведамленьне пра тваю сьмерць, пераклад кожнае кнігі на ўсе мовы, інтэрпаляцыі з кожнае кнігі ва ўсе кнігі, трактат, які Бэда мог напісаць (але не напісаў) пра міталёгію саксаў, згубленыя кнігі Тацыта.

Калі было абвешчана, што Бібліятэка зьмяшчае ў сабе ўсе кнігі, першым уражаньнем была дзівосная шчаснасьць. Усе людзі адчулі сябе гаспадарамі нейкага некранутага патаемнага скарбу. Не было ніводнае асабістае або сусьветнае праблемы, вычарпальнае вырашэньне якой не было б схаванае ў вадным з шасьцікутнікаў. Сусьвет меў абгрунтаваньне, сусьвет раптоўна запоўніў бязьмежныя абсягі надзеі. У той час шмат гаварылася пра Апраўданьні: кнігі ўсхваленьняў і прароцтваў, якія назаўсёды апраўдвалі ўчынкі кожнага чалавека ў сусьвеце й абяцалі яму ў будучыні дзівосныя таямніцы. Тысячы прагных пакінулі мілыя сэрцу родныя шасьцікутнікі й пусьціліся ўгору па сходах, гнаныя марнай задумаю знайсьці сваё Апраўданьне. Гэтыя паломнікі сварыліся ў вузкіх калідорах, вымаўлялі змрочныя праклёны, душылі адзін аднаго на боскіх лесьвіцах, шпурлялі зманныя кнігі ў прадоньні тунэляў, гінулі, скінутыя ў прорву людзьмі з далёкіх краінаў. Іншыя вар'яцелі... Апраўданьні існуюць (я бачыў два, што датычаць асобаў з будучыні, магчыма, рэальных), але шукальнікі ня памяталі, што магчымасьць таго, каб нехта знайшоў сваё Апраўданьне або хоць нейкую недакладную яго копію, роўная нулю.

У тыя часы верылася таксама ў раскрыцьцё галоўных таямніц чалавецтва: паходжаньня Бібліятэкі й часу. Верагод-

*Працяг на стар.14*

[1] У варыгінальным рукапісе няма ні лічбаў, ні вялікіх літараў. Пунктуацыя была абмежаваная да коскі й кропкі. Гэтыя два знакі, прагал паміж словамі й дваццаць дзьве літары альфабэту складаюць дваццаць пяць знакаў, пра якія згадвае невядомы. *(Заўвага рэд.)*

[2] Раней на кожныя тры шасьцікутнікі быў адзін чалавек. Самагубствы й хваробы лёгкіх парушылі гэтую прапорцыю. Успамін, поўны невыказнага смутку: часам я доўгімі начамі вандраваў па пустых калідорах і сходах, не спатыкаючы ніводнага бібліятэкара.

# Хрысьціянія — краіна, дзе перамог камунізм

Алесь Крыштаповіч

Ёсьць на сьвеце такая краіна, разам нязвыклая і вельмі знаёмая — Хрысьціянія. Маленькая выспа камунізму ў цэнтры адной з багатых заходнеэўрапэйскіх сталіц. Ці то аазіс, ці то лепразорый.



Жывое ўвасабленьне ідэяў і «каштоўнасьцяў», за якія ў нас безвынікова загублены мільёны жыцьцяў, і якім «у іх» дазволілі ўвасобіцца на асобна ўзятым кавалку зямлі. Так зьявілася ў Капэнгагене Хрысьціянія. Госьць з СССР, прывезены сюды «на экзотыку», перажывае гнятлівыя пачуцьці. Таму што ў якасьці «экзотыкі» мусіць у мініятуры пабачыць краіну, адкуль прыехаў.

Хрысьціянія — гэта цэнтар Капэнгагену. Былая ваенна-марская база, якую ў сярэдзіне 60-х гадоў захапілі гіпі. Тут нават ішлі баі, лілася кроў, былі забітыя. У той час па ўсёй Эўропе дзеілася нешта падобнае. Дык вось, дацкі парлямант тады за два тыдні вырашыў аддаць гэтую былую вайсковую базу гіпі. Маўляў, горад стане значна чысьцейшы. А там яны чым хочуць, тым няхай і займаюцца.

Напэўна, сёньня тут мала што зьмянілася з тых часоў. Хіба што каналы, па якіх хадзілі караблі, пазарасталі хмызамі ды калючы дрот паржавеў. Побач — дзейная база пад дацкім сьцягам.

Уваход у Хрысьціянію вольны, але паўсюль — шыльды з папярэджаньнем: фатаграфаваць забаронена! Паколькі гэта «вольная краіна», тут можна рабіць усё, што хочаш, усё дазволена. Напрыклад, можна гандляваць наркотыкамі...

Жывуць тутэйшыя насельнікі ці ў былых казармах, ці вось у такіх размаляваных спарудах: вагончыках, вігвамах. Як я



здымаў? Я не здымаў людзей і стараўся, каб ня бачылі, што здымаю. Інакш — немагчыма, разаб'юць пысу...

Насельнікі Хрысьціяніі жывуць пры камунізьме. Зaробленыя грошы разьмяркоўваюцца. Ёсьць свая вытворчасьць: выпрацоўваюць ровары для самых тоўстых людзей, займаюцца рэстаўрацыяй мэблі, печаў, прымусаў. Акрамя таго, у іх ёсьць кавярні, розныя сэкс-шопы, згаданы продаж наркотыкаў. Усё гэта дае даход. Наркотыкі прадаюць адкрыта. Каля прадаўца зьбіраецца шмат народу. Мне давялося сустрэцца й паразмаўляць з камуністам-партугальцам, якога гналі праз усю Эўропу, і ён змог знайсьці прытулак толькі тут, у Хрысьціяніі. Тут увогуле ня надта добра ставяцца да наведнікаў. Але ж пачуўшы расейскую мову ён падабрэў, зразумеў, што гэта «свае». Тут маюць вельмі добрае ўяўленьне пра Савецкі Саюз. Маўляў, у нас усё добра разьмяркоўваецца, таму добра жывецца й ёсьць брацтва людзей. Такое ж, як у Хрысьціяніі. У канцы размовы партугалец запрасіў нас у кавярню для гомасэксуалістаў на вечаровае шоў.

Камуністы Хрысьціяніі праводзяць партыйныя сходы. На мейсцы аднаго

# Скандал на Сіцыліі, альбо Руждзі ў спадніцы

«Дазвольце мне насіць нагавіцы» — так называецца бэстсэлер, якога ніхто не чакаў. 19-гадовая студэнтка факультэту гуманітарных навук з Палерма Лара Кардэла ў 1988 г. выйграе конкурс на лепшы літаратурны дэбют, абвешчаны выдавецтвам Мандадоры. У красавіку 1988-га пасьля шырокай рэклямнай кампаніі зьяўляецца яе кніжка. Лара раздае інтэрвію, выступае па тэлевізіі. І вось посьпех: першыя 20 тысяч асобнікаў разыходзяцца бліскавічна. Кніга Кардэлы займае першае мейсца ў сьпісе бэстсэлераў, і трымаецца на гэтай пазыцыі некалькі месяцаў.

На Сіцыліі тым часам распачынаецца скандал. Жыхары Лікаты, роднага гораду Лары, абражаныя й зьняслаўленыя. Кардэла абвінаваціла тутэйшыя традыцыйныя звычаі, закляйміла перавагу мужчын і заняволеньне кабетаў, асуджаных на гвалтаваньне нават ва ўласных сем'ях. У тэлевізійным інтэрвію Лара засьведчыла, што дзяўчатам зь Лікаты ня можна есьці на вуліцы лёды, насіць мініспадніцы і г.д.

У Лікаце даходзіць да кіпеньня. Ужо ў наступны дзень праз горад цягнецца шыхт дзяўчат у мініспадніцах і з лёдамі у руках... Лара нязмушана адказвае, што ўрэшце воля кабеты і ўзровень эмансіпацыі не вымяраюцца колькасьцю мініспадніцаў. Гэта ўсё адно як свабоду вымяраць у сантымэтрах аголенага цела... Патрэбна зьмяніць мэнтальнасьць.

Цяпер Лару называюць Руждзі ў спадніцы, распачынаецца паляваньне на вядзьмарку. Ёй пагражаюць, у яе бацькі — страхавога агента, меншае кліентуры. Але скандал спрыяе посьпеху. Твор Кардэлы робіцца сусьветным бэстсэлерам. У Лікату едуць чарговыя тэлевізійныя экіпы, замежныя часопісы друкуюць сэнсацыйныя артыкулы. Лік прададзеных асобнікаў даходзіць да 200 тысяч, зьявіліся першыя пераклады, зроблена экранізацыя.

У Лікаце ствараецца Камітэт абароны Лары Кардэлы, а горад атрымлівае нарэшце бібліятэку і жаночую кансультацыю. Адным словам, справа сканчаецца гэпі эндам, больш шчасьлівым, чым раман, дзе ў фінале ледзьве ўдаецца пазьбегнуць трагедыі.

«Дазвольце мне насіць нагавіцы» — гэта абразкі, узятыя з кронікі здарэньняў: гісторыя нядолі збунтаванай дзяўчынкі, якая марыць надзець нагавіцы — сымболь эмансіпацыі. Яе мара становіцца спружынай яе ўчынкаў і яе няшчасьцяў. Дастаткова аднаго пацалунку на вуліцы, і Анэта — «зганьбаваная». Бацькі вырашаюць пазбыцца нягоднай дачкі й высылаюць яе да дому дзядзькі, які пару гадоў таму спрабаваў яе згвалціць... «Тут ніхто не баіцца сэксу, — кажа Кардэла, — адзіная праблема палягае на тым, каб ганебныя рэчы захоўваць у таямніцы, абы ня выйшлі за кола сям'і». Бо справамі сэксу, падобна як справамі мафіі, тут займаюцца «людзі гонару».

G.W.



# Бабілёнская бібліятэка

*Працяг са стар.13*

на, што гэтыя важныя таямніцы могуць быць вытлумачаныя ў словах: калі будзе недастаткова мовы філёзафаў, шматаблічная Бібліятэка спародзіць неабходную дзеля гэтага нечуваную дагэтуль мову, а таксама слоўнікі й граматыкі гэтае мовы. Ужо чатыры стагодзьдзі людзі бадзяюцца па шасьцікутніках... Ёсьць афіцыйныя шукальнікі, *інквізытары*. Я бачыў іх падчас выкананьня імі сваіх абавязкаў: яны прыходзяць заўсёды вельмі пачцівыя; гавораць пра лесьвіцы бяз прыступак, дзе яны ледзь не забіліся; размаўляюць зь бібліятэкарам пра галерэі ды сходы; часам бяруць у рукі нейкую кнігу й гартаюць яе, шукаючы ганебныя словы. Відавочна, ніхто нічога не спадзяецца знайсьці.

На зьмену залішняй надзеі прыйшла, як звычайна бывае, безаглядная роспач. Было амаль невыносна ведаць, што на нейкай паліцы ў нейкім шасьцікутніку стаяць найкаштоўнейшыя кнігі й што кнігі гэтыя недасягальныя. Адна блюзьнерская сэкта прапанавала ўсім людзям спыніць пошукі ды перамяшаць знакі й літары, пакуль зь іх не складуцца, праз неверагодны шчасьлівы выпадак, тыя кананічныя кнігі. Улады былі вымушаныя абвясьціць суровыя загады. Сэкта зьнікла, але калі я быў маленькі, я бачыў старых людзей з мэталічнымі дыскамі й забароненай шклянкай з косткамі, якія надоўга зачыняліся ў прыбіральні ды няўмела спрабавалі імітаваць боскі беспарадак.

Іншыя, наадварот, лічылі, што найперш трэба зьнішчыць непатрэбныя кнігі. Яны ўрываліся ў шасьцікутнікі, паказвалі дакуманты, не заўсёды фальшывыя, гарталі з агідаю які-небудзь том ды асуджалі на сьмерць цэлыя паліцы: іх гігіенічна-аскетычнае шаленства сталася прычынаю недарэчнае загубы мільёнаў кніг. Іх імёны былі праклятыя, аднак тыя, хто аплаквае «скарбы», зьнішчаныя іх вар'яцкім шалам, ня ўлічваюць двух відавочных фактаў. Першы: Бібліятэка настолькі велізарная, што любая шкода, учыненая чалавекам, выглядае бясконца малою. Другі: кожны асобны экзэмпляр незаменны, але (бо Бібліятэка ўсеабдымная) заўсёды знойдзецца колькі сотняў тысяч недасканалых копіяў: кніг, якія розьняцца ад арыгіналу толькі адною літарай або адною коскай. Насуперак агульнаму меркаваньню, я наважваюся лічыць, што наступствы зруйнаваньняў, учыненых Ачышчальнікамі, былі перабольшаныя дзеля страху, што сеялі гэтыя фанатыкі. Яны былі гнаныя маніяй захапіць кнігі Чырвонага Шасьцікутніка: кнігі меншага за звычайны фармату, усемагутныя, ілюстраваныя й магічныя.

Мы ведаем таксама й пра другую забабонную ідэю тых часоў: Чалавека Кнігі. На нейкай паліцы ў нейкім шасьцікутніку (як лічылі людзі) мусіць існаваць кніга, якая ўяўляе сабою абагульненьне й дасканалы кароткі выклад усіх астатніх: адзін бібліятэкар яе прачытаў і стаўся падобны да бога. У мове тае зоны яшчэ захаваліся адгалоскі культу тагата старавечнага службоўца. Шмат людзей падарожнічала ў пошуках Яго. Цэлае стагодзьдзе яны марна туляліся ў самых розных кірунках. Як вызначыць, дзе знаходзіцца той запаветны шасьцікутнік, дзе Ён знайшоў сабе прытулак? Нехта прапанаваў зваротны мэтад. Каб знайсьці кнігу А, трэба папярэдне прагледзець кнігу В, дзе паведамляецца пра мейсца захаваньня кнігі А; каб знайсьці кнігу В, прагледзець папярэдне кнігу С, і гэтак бясконца... У гэткіх прыгодах я змарнаваў і пражыў мае гады. Мне не здаецца неверагодным, каб на нейкай паліцы сусьвету не стаяла ўсеабдымная кніга[3]; я малю невядомых багоў, каб хто-небудзь зь людзей — хоць бы толькі адзін за цэлыя тысячагодзьдзі — знайшоў яе ды прачытаў. Калі гэткі гонар, мудрасьць і шчасьце наканаваныя не мне, хай яны дастануцца іншым. Хай існуе рай, хоць бы маё мейсца было і ў пекле. Хай я буду зганьбаваны й зьнішчаны, але хай хоць на імгненьне, хоць у вадной істоце твая велічная Бібліятэка будзе апраўданая.

Бязбожнікі сьцьвярджаюць, што бяссэньсіца — нармальны стан Бібліятэкі, а

[3] Паўтараю: каб кніга існавала, дастаткова, каб яна была магчымая. Выключана можа быць толькі існаваньне немагчымага. Напрыклад: ніводная кніга ня можа адначасова быць лесьвіцай, хоць без сумлеву ёсьць кнігі, якія аспрэчваюць, адмаўляюць або пацьвярджаюць гэткую магчымасьць, а таксама іншыя, чыя структура адпавядае будове лесьвіцы.

# Dyk padpisvajsia!





*Наша Ніва* — беларуская газэта для Вас і Вашых сяброў. Пакуль газэта выходзіць нерэгулярна, пакуль нестабільны кошт нумару, умовы падпіскі наступныя. Перашліце адвольную суму грошай на адрас: **232051, Вільня, а/с 2425, Кардзіс Людвіка,** альбо **220131, Менск, а/с 229, Чубрык Кацярына.** Калі Вы атрымаеце нумароў на гэтую суму, мы паведамім Вам, што падпіску неабходна працягнуць. Калі Вы жывеце ў Польшчы, грошы трэба пералічыць на **конта 5526-80725-136 II PKO Białystok. Piśmo Informacyjno-Kulturalne Wschodniej Białostocczyzny** *Czasopis* (**dla** *Našaje Nivy*). Кошт аднаго нумару — 1000 злотых. Штосьці ўдакладніць можна па адрасе: 15-950 Białystok, ul. Suraska, 1. P.skr. 149. Tel. 210-33.

У астатнім сьвеце падпіску зьбірае Сяргей Карніловіч з Кліўленду па адрасе: **Byelarusian-American Community Center «Połacak», 11022 Webster Road, STRONGSVILLE, OH. 44130, U.S.A. Attn: Mr. S.Karniłovič.** Падпіска на НН — добры падарунак з нагоды любога сьвята. Дарэчы, калі Вы аформіце дзьве падпіскі на нашу газэту — агульны кошт іх будзе зьменшаны дл Вас на 10%. А калі Вы выпішаце тры асобнікі, мы зьменшым кошт на 25%. Калі ж Вы аформіце больш за тры падпіскі — сабе й сябрам — мы будзем дасылаць Вам асобнікі ўсяго за палову кошту. *Наша Ніва* — гэта неблагое чытво. Памятайце — падпіска на НН — гэта і нешта апроч НН. А некалькі падпісак на НН — гэта старая беларуская традыцыя.



## *Шляхецтва:* сёньня забава, заўтра эканамічная праблема.

**Калі Вашыя продкі — шляхецкага роду, і Вы хочаце мець выяву свайго гербу, генэалягічную схему ды іншыя дакументы пра свой род — мы дапаможам Вам. Узгадайце хоць бы некалькі імёнаў Вашых продкаў (дзядоў і прадзедаў), мяйсцовасьць іхняга паходжаньня ці зямельных уладаньняў, назву герба. Узгадайце і разам з дакладным напісаньнем Вашага прозьвішча дашліце нам, на адрас рэдакцыі ў Вільні. Вы абавязкова атрымаеце адказ. Пры наяўнасьці паштовага перакзазу на 25 рублёў архівіст зараз пачне пошук. Калі Ваш радавод зацікавіць рэдакцыю й Вы самі ня будзеце супраць, мы надрукуем матэрыялы ў газэце. У іншым выпадку за дадатковую аплату мы дашлем Вам матэрыялы пэрсанальна.**

Рэдактар новага беларускага выданьня Юры Гайдук з Іўя просіць паведаміць пра часопіс **Паралелі:**

Меркаваны кошт асобніка 2 рублі. Дзеля падпіскі трэба паштовым перакзазам дасылаць адвольную суму грошай на адрас:

**231330, Гродзенская вобласьць, Іўе, а/с 14. Гайдук Юры Іванавіч.**

Часопіс будзе дасылацца за кошт падпісчыка. Мы апынуліся ў даволі цяжкіх матэрыяльных умовах. Таму зь вялікай удзячнасьцю прымем ахвяраваньні арганізацыяў ды прыватных асобаў. Наш разьліковы рахунак: **363302 у Іўеўскім аддзяленьні аграпрамбанку**.



*Рэдакцыя газэты* Беларускі Калекцыянер *паведамляе, што падпісацца на газэту на 1992 год можна, калі пералічыць на адрас:* **211030, Ворша, вул. Флёрава, д.7, кв. 16, Сярожкіну Алесю Міхайлавічу** *4 рублі зь межаў Беларусі й 5 рублёў зь межаў СССР.*

## *Паштовая скрынка*

**Ул.Ірбісу, пас. Крупскі, Менскай вобласьці.** Калі хто ня ведае, ці належаў ягоны род да шляхты, няхай дашле свае зьвесткі (як гэта сказана ў нашай абвестцы), і будзем шукаць у вархівах. Што да гутаркі з Н.Гілевічам, дык мы яе не плянуем, бо пагляды й пазыцыя Гілевіча ўсім вядомыя. За іншыя прапановы й добрыя словы дзякуй. Пішыце, чым жывеце.

**Янку Брамніку і Льву Русічу зь Менску.** Як пісалі ў такіх выпадках у старой НН: «Вершы слабыя!»

**Л.В-ко зь Менску.** «Адказны партыйны таварыш» быў героем гумарэсак гадоў 10 таму. Гадоў пяць, як ён зьмяніў жанр і пасяліўся ў творах абсурду. Сёньня яго можна сустрэць хіба што на літаратурнай звалцы. І тое, што раней выклікала сьмех, не выклікае ўжо нічога, апроч гідлівасьці. Сьмех — ад страху, гідлівасьць — да прывідаў. Пасьля — проста жыцьцё. Зараз — зноў сьмяяцца з «адказных партыйных таварышаў»? Няўжо ўсё яшчэ страшна?.. А наогул... Калі О'Генры ўпершыню прыйшоў у рэдакцыю й прынес гумарэску, яму сказалі наступнае: «Калі хочаш быць сапраўдным пісьменьнікам, ніколі не пішы гумарэскі». Ён і не пісаў. І стаў вялікім пісьменьнікам. Спэцыфіка таленту!

**В.Пр-ку зь Менску і С.Цім-ку з Баранавічаў.** Вашыя лісты атрымалі, забраў архівіст.

**С.Яршу са Слоніма.** Пра тое, як савецкія партызаны палілі вёску разам з жыхарамі, Янка Брыль пісаў у «ЛіМе» 22 лютага, №8 за гэты год.

Усім чытачам, якія даслалі нам свае прапановы й добрыя словы, дзякуем!



*Таварыства беларускае культуры ў Вільні й клюб «Сябрына» шчыра дзякуюць сябрам Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Гданьску Лене Глагоўскай, Ганьне Іванюк, Міхасю Куптэлю і ўсім — за падтрымку беларусаў Летувы.*

## АХВЯРЫ

на выданьне НН

даслалі:

**Ул.Карпіновіч** зь вёскі Мароські Маладэчанскага раёну — 30 р.
**Вячаслаў Харужы** зь Беластоку — 150 р.
**Уладзімер Кадола** з пасёлку Белая Гара ў Якуціі — 100 р.
**В.Набагез** з Амэрыкі — 30 $,
**Віталь Казан** з Амэрыкі — 5 $,
**Мікола Грэбень** з Амэрыкі — 5 $,
**Васіль Антановіч** з Масквы — 25 р.,
**Г. Давідзюк** зь Менску — 50 р.,
**Галіна й Васіль Русак** з ЗША — 50 $.
**Уладзімер Арлоў** пераказаў свой ганарар за публікацыю ў 1-м нумары.

Дзякуй!

## Жарты




**— Усьміхайцеся! Зараз адсюль выляціць птушка.**

*Малюнак С.Харэўскага.*

Анталёгія НН

## *Паштовая скрынка*

**Амэрыка, Ню-Ёрк. З.Дубр-каму.** Усякая рэдакцыя, дзядзька, мае права перабляць, бо яна адказвае за ўсё, што друкуе. *1909, № 28-29.*

**Вішнева Ашмянскага павету. Буйло:** ваша «Вясна» спазьнілася. *1909, №37.*

**Жалудак Лідзкага пав. Землиробу Я.Р-чу.** Калі ў вас народ цёмны й ня хоча нічога чытаць, з гэтага выходзіць якраз тое, што трэба дабівацца, ня гледзячы ні на якія перашкоды, каб ён прывыкаў да кнігі, газэты. Ангельцы, напрыклад, іншы народ, як мы, беларусы; ён калі павядзе сваю лінію, то ўжо не затрымаецца. А наш беларус будзе перш вылічаць розныя перашкоды, а потым палезе на печ... *1909, №16*

Наша Ніва
**Naša Niva**

Беларуская газэта
заснаваная ў 1906 г.
адноўленая ў 1991 г.

Рэдакцыйная Рада
Выдавец Павал Жук

Адрас для допісаў: 232041, Вільня, а/с 2082

Адрас для грашовых пераказаў: 232051, Вільня, а/с 2425.

Афсэтны друк.

Друкарня МАУ

Замова 1595